РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

Кошт 200 рублёў

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №19 (128). 11 МАЯ 1994 ГОДА.

СЁННЯ:



TV-ПРАГРАМА:

БТ, «Астанкіна», канал «Расія», Санкт-Пецярбург, 8-ы канал.

Стар.7.

# ВОСЕНЬ ПАТРЫЯРХА

У ТВОРЧЫХ САЮЗАХ



Што патрэбна сёння пісьменніку? Як заўсёды — папера і прылады для пісьма. Як ва ўсе часы — сродкі для існавання, хай сабе і сціплага. Што яшчэ? Магчымасць ведаць, што слова тваё знойдзе сугучча ў нейчай душы... Хай аж тады, калі ўжо твая душа зробіцца няўласнай гэтаму свету...

«А брацтва, суполка падобных да сябе?» — запытаецца хтосьці. Магчыма, але мастацтва заўсёды было справай адзінак, асобаў.

Трывалых, жорстка структураваных «мастачых» згуртаванняў гісторыя практычна не памятае. Хіба што своеасаблівай нягнуткасцю вызначаліся народжаныя ў асобна ўзятых краінах творчыя саюзы.

Больш за год на старонках нашага штотыднёвіка існавала рубрыка з адпаведным назовам «У творчых саюзах». І практычна ў кожным матэрыяле, які з'яўляўся пад гэтай шыльдай, чулася гучанне няўтульнага для творчых людзей часу, праступалі рытмы разбурэння, якое, паводле адной з тэорый Станіслава Лема, таксама мусіць быць творчым прынцыпам. Амаль у кожнай гутарцы паўставала пытанне: ці патрэбны сёння творчыя саюзы наогул? Ці не адмаўляе іх «рух да рынку», напрамак якога пакуль што не паддаецца лінейнай экстрапаляцыі? І адказ быў нязменны: так, яны проста неабходныя, але іхняе існаванне трэба напоўніць новым зместам.

З мэтай «перанапаўнення», пэўна, і ладзіўся 27-28 красавіка ў мінскім Доме літаратара XI з'езд пісьменнікаў Беларусі. Адкрыў форум народны паэт Максім Танк. Ён адзначыў, што гэты з'езд — гістарычны, бо ўпершыню сабраў пісьменнікаў незалежнай дзяржавы, і падкрэсліў, што ў чэрвені беларускі Саюз пісьменнікаў справіць свой шасцідзесяцігадовы юбілей.

Шэсць дзесяцігоддзяў... У чалавечым жыцці гэта ўжо восень? А ў жыцці творчай арганізацыі?..

Справаздачная прамова старшыні СПБ Васіля Зуёнка ўтрымлівала, у асноўным, палажэнні, выказаныя ў нядаўнім інтэрв'ю «Культуры». Намеснік старшыні СПБ Уладзімір Паўлаў прачытаў амаль бясконцы пералік імёнаў актыўных паэтаў і празаікаў, як ён сам выславіўся, «памінальнаю». Праз дзень яму давялося прачытаць яшчэ і дадатак да спісу — актыўных пісьменнікаў у СП значна больш, чым напачатку ўяўлялася намесніку старшыні. Прамаўлялі іншыя наменсікі, рабілі справаздачу рэвізійных камісій СПБ і Беллітфонду. Гучалі шматлікія выступленні пісьменнікаў. Зачытвалася віншаванне ад прэм'ера Вячаслава Кебіча. Да прысутных звярнуўся палымяны Зянон Пазняк. Прымаўся зварот да беларускага народа ў сувязі з палітычным момантам. Здавалася, усё ішло як заўсёды, як на некалькіх папярэдніх з'ездах, на якіх аўтарка гэтых радкоў мела гонар прысутнічаць, але ж... І мяне, і многіх маіх калег не пакідала ўражанне нейкай штучнасці, «прыцягнутасці», неістотнасці гэтага з'езду. І абстрактныя прамовы слухаліся без асаблівай увагі. І выбары здаваліся «не такімі»... І вынікі тых выбараў былі глыбока сімвалічныя: нібыта ў гонар 50-годдзя вызвалення Беларусі ў склад Рады СП быў абраны амаль кожны чацвёрты пісьменнік.



На працягу многіх гадоў творчыя саюзы, і асабліва Саюз пісьменнікаў, існавалі як духоўная апазіцыя афіцыйнай прапагандзе. Напачатку было Слова, і яно гучала, на гэты раз, з пісьменніцкіх вуснаў, матэрыялізавалася ў «ЛіМе», «Літаратурной газете», якія зачытваліся літаральна да дзірак. Але сёння, здаецца, і выказана і выпісана ўжо ўсё, і больш за тое, што можна было выпускаць, як пару з перагрэтага рухавіка. Тым не менш «наш паравоз наперад ляціць», не зважаючы на змены навакольных краявідаў. І на трыбуну адзін за адным выходзяць тыя, хто не выходзіў сем-восем гадоў таму, выходзяць, каб давесці самім сабе і атачэнню: і я выказаўся! І на трыбуну ўзыходзяць аўтарытэты, каб яшчэ раз паўтарыць шмат разоў чутыя ісціны. Зямля пад маятнікам Фуко павярнулася, але бясконцая нітка інерцыі кіруе ківаннем у пустаце...

Дык навошта ж збіраліся пісьменнікі? Яшчэ раз абмеркаваць палітыку ці вырашыць праблемы, якія сёння пагражаюць самому існаванню Саюза пісьменнікаў? Катастрафічны недахоп сродкаў, дом творчасці «Іслач», які збанкрутаваў, вызвалены ад падаткаў, але ахоплены камерцыйнай летаргіяй Літфонд... Той самы Літфонд, які, як блудны сын, вярнуўся пад крыло Саюза (ці вырашыў захінуць Саюз сваім крылом?). Урэшце, з безапеляцыйнай заўвагі, што Саюз пісьменнікаў — не саюз камерсантаў, — стала канчаткова зразумела, што ў вырашэнні фінансавых праблем большасць творцаў традыцыйна спадзяецца на дзяржаўныя, а не на ўласна пісьменніцкія структуры. Адпаведна выбіралася і кіраўніцтва. Дакладней, перавыбіралася. Аніякіх нечаканасцей не адбылося. Ды і не магло адбыцца пры неўміручым сацрэалістычным метадзе спасціґнення свету і часу. Урэшце, маладое віно, згодна з біблейскай показкай, нельга заліваць у старыя мяхі. А таму пачакайма, пакуль спатрэбяцца мяхі новыя. І перачытаем літаратурныя творы розных жанраў: «Усё добра, цудоўная маркіза», «На Заходнім фронце без зменаў», «Восень патрыярха».

Г.Б.

**P.S.** Гэты матэрыял пісаўся выключна з карэспандэнцкага пункту погляду.



Фота А.МАЦЮША.

ПАЛІТЫЧНЫ БАРОМЕТР

# ДЗЕВЯТНАЦЦАЦЬ ЧАЛАВЕК НА... АДНУ БЕЛАРУСЬ! О-ХО-ХО...

КАЖУЦЬ людзі, у краіне пачалася прэзідэнцкая гонка. Кажуць яшчэ, што найактыўнейшым чынам змагаюцца за подпісы патэнцыяльных выбаршчыкаў патэнцыяльныя прэтэндэнты ў патэнцыяльныя прэзідэнты. І, што дакладна вядома, аж дзевятнаццаць падобных прэтэндэнтаў спарадзіла нашая маленькая Беларусь! Такой колькасці найразумнейшых ды найталенавіцейшых спадароў, далібог, не бачыла яшчэ ні адна краіна ў свеце.

Каго толькі няма сярод найлепшых сыноў айчыны!

Не маглі абысціся без свайго кандыдата «чырвоныя паны» —дырэктары ды старшыні нашых калектыўных сельгаспадарак. Праўда, газета «Свабода» сцвярджае, што нават танная кілбаса не можа стаць гарантам патрэбных ста тысяч подпісаў, а калі ўзяць у разлік і абмежаваны запас гэтага прадукту ў нашых «паноў», то надзея назбіраць сваю квоту сярод прыгоннага постсавецкага беларускага сялянства для спадара Дубко і кампаніі здаецца болей чым прывіднай. Дзеля справядлівасці зазначым, што наўрад ці ёсць шанцы і ў лідэра Беларускай сялянскай партыі Яўгена Лугіна. Павага да піянера беларускага фермерства не можа пераважыць яго не надта вялікую папулярнасць у шырокіх колах насельніцтва. Папраўдзе, аглядальнікаў моцна здзівіў палітычны трук БСП, якая практычна адкалолася ад «Вясны-94», знайшоўшы самага дастойнага ў сваіх шэрагах. Застаецца спадзявацца, што на наступных этапах прэзідэнцкай кампаніі галасы прыхільнікаў вельмі паважанай мной партыі і яе лідэра будуць аддадзены ў імя рэальнай перамогі дэмакратыі.

Наогул, варта, бадай, зазначыць нейкую несур'ёзнасць сёлетняй кампаніі. Беспрацоўны, нікому невядомы інжынер, правінцыйны настаўнік... Гэта, як той казаў, усё добра, але далёка недастаткова для таго, каб дзесяцімільённы народ мог аддаць свае галасы за «ката ў мяху».

Галоўныя прэтэндэнты на перамогу вызначаны на Беларусі даўно — «белавежскі зубр» Станіслаў Шушкевіч, такі ж самы «зубр», толькі ў іншай скуры, Вячаслаў Кебіч, нескароны барацьбіт з карупцыяй і ўрадавымі чыноўнікамі Аляксандр Лукашэнка, непахісны ў сваёй непавазе да кампрамісаў Зянон Пазьняк і, магчыма, трошкі вядомы сваёй мэрска-мецэнацкай дзейнасцю Генадзь Карпенка.

Памятаеце, Шцірліц раскладаў на стале малюначкі з выявамі босаў Рэйха і пакутліва думаў: «ХТО?». Паспрабуем заняцца гэтым жа і мы. Найбольшую сілу, на мой погляд, уяўляе «самы рэальны», як ён сам сябе назваў, прэтэндэнт — прэм'ер сённяшняга беларускага ўрада. Рэкламны фінт з аб'яднаннем грашовых сістэм — для шырокага неадукаванага і палітызаванага кола насельніцтва Беларусі, падкормка ў выглядзе разавых выплат — пенсіянерам, больш чым шчырыя выказванні пра «нацыянал-радыкалаў» — для афіцэраў ды «сабаран», памножаныя на магутную армію чыноўнікаў выканаўчых структур і буйнапрамысловага дырэктарскага корпуса павінны забяспечыць жалезнае прыкрыццё гэтаму кандыдату. Факты шматлікіх камбінацый са зборам подпісаў, якія праскокваюць часам у друку, сведчаць пра магутную, як у бронецягніка, прабіўную сілу яго каманды.

З другога боку, прозвішча Кебіч кідае ў дрыжыкі беларуса, які тры гады таму ганарыўся найбагацейшай і наймагутнейшай у сістэме СССР краінай, а цяпер з роспаччу лічыць «зайцоў», якія пладзяцца з неймавернай хуткасцю, нашмат апярэджваючы ўсе прыродныя стандарты. Прозвішча Кебіч прымушае сціскацца кулакі ў тых, каму найперш баліць за слова «Беларусь». Прозвішча Кебіч сталася раптоўна галаўным болем нават для М.Грыба, які рашуча выказаўся за нязменнасць Канстытуцыі, парушыць каторую наважыўся паважаны кандыдат. Болей таго, спадар Лукашэнка паспеў запэцкаць кебічаву каманду зычнымі крыкамі з трыбуны ВС, і адмыцца ад бруду ў свядомасці жабрака-беларуса саўмінаўскім чыноўнікам, нават калі яны крыштальна чыстыя, будзе надзвычай цяжка.

Сам спадар Лукашэнка атрымаў шмат прызавых ачкоў падчас сваёй парламенцкай актыўнасці. І шмат хто прагаласуе менавіта за яго. Але... Па-першае, у запале антыкебічавай барацьбы ён неасцярожна раскрытыкаваў грашовае пагадненне. І Народны Рух, які паставіў сабе за мэту інтэграваць Беларусь у Расію, тут жа адхрысціўся ад даўняга сябрука вуснамі свайго лідэра Гайдукевіча. Па-другое, стыль маўлення і багацце лексічных адзінак, якое злятае з языка паважанага Аляксандра Рыгоравіча, выклікае катэгарычнае непрыняцце ў інтэлігенцыі краіны ці любога больш-менш адукаванага і культурнага чалавека.

Іншая справа — Станіслаў Шушкевіч. Адукаваны, культурны, беларус, інтэлігент — што можна яшчэ пажадаць Прэзідэнту? Хіба што рашучасці, якой так не хапала гэтаму чалавеку на пасадзе спікера. Але рашучасць — справа нажыўная, і гледзячы на тое, як разгортваецца агітацыя за гэтага кандыдата, здаецца, што больш дзейснага чалавека на Беларусі наогул не знайсці.

Горш справа з Зянонам Пазьняком. Яго залішняя катэгарычнасць і залішняя рашучасць у спалучэнні з устойлівым вобразам «нацыяналіста» даволі часта выклікае рэакцыю «хто заўгодна, толькі не Пазьняк». З іншага боку, тыя ж самыя якасці паварочваюцца і сваімі вартасцямі, і неаднойчы даводзілася чуць: «Толькі Пазьняк і навядзе парадак!». Чаго ў выніку акажацца ў актыве Пазьняка болей — харызмы ці поўнага адмаўлення, — сёння прадказаць немагчыма, але абсалютна зразумела, што раздрай у шэрагах «антыкебічаўскай» апазіцыі наўрад ці дапаможа ў барацьбе з «рэальным» прэтэндэнтам. Мы, вядома, пачакаем да 14 мая, калі стануць вядомыя вынікі збору подпісаў. Мы, вядома, прыйдзем на выбарчыя ўчасткі, каб аддаць свой адзіны і непаўторны голас за найлепшыя спадзяванні.

Вось толькі наўрад ці тыя выбары адбудуцца — па прагнозах сацыёлагаў, больш за 55 працэнтаў беларусаў наогул не завітаюць да выбарчых урнаў. Паўторныя, ці трэція, ці чацвёртыя выбары будуць прыводзіць толькі да ўсё горшых вынікаў.

Беларусь сёння стаіць на небяспечнай мяжы, калі пагроза афіцыйнага захопу ўлады (праз выбары) чорнымі сіламі памнажаецца на пагрозу кансервацыі ўлады ў выніку несапраўдных выбараў, і тады ўлада гэтая натуральна трансфармуецца ў непрыхаваную дыктатуру.

Застаецца адзіны шанц для Беларусі — абраць таго, хто любіць Беларусь.

**Максім ГІЛЕЎСКІ.**

ЭКСКЛЮЗІЎ

# ЦІШЭЙ ЕДЗЕШ — ДАЛЕЙ БУДЗЕШ?

**Хаця і са спазненнем, але і ў нашай краіне распачалася прыватызацыя. У становішчы аўтсайдэра ёсць свае пэўныя вартасці. Яно дазваляе не паўтараць памылак тых, хто пайшоў далёка наперад. Але і ўласны шлях не пазбаўляе ад хібаў.**

**Якая карціна назіраецца зараз, чаго чакаць ад прыватызацыі, што павінна ператварыць значную частку нашых насельнікаў — ад рабочых да працаўнікоў культуры — ва ўласнікаў заўтра? Слова народнаму дэпутату, сакратару Камісіі па эканамічнай рэформе, дасягненні эканамічнай самастойнасці і суверэнітэце Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Уладзіміру САПРОНАВУ.**

**— Прыватызацыя пайшла, але ж даволі часта можна чуць скаргі, што груваскі ў нас працэс атрымання неабходных папер.**

— Так, згодны з Вамі. Механізм атрымання імянных прыватызацыйных чэкаў, — не ваўчараў, бо гэта розныя рэчы, сапраўды даволі складаны. Некаторыя працэсы мы надта ўжо забюракратызавалі, напрыклад, гэта тычыцца прадастаўлення даведак пра наяўнасць сабраных грошай на рахунках Ашчаднага банка. Гэта лішнія працэдуры, і іх трэба спрашчаць. Але ж абсалютнага спрашчэння ў справе, пра якую ідзе гаворка, быць не можа, таму што размова ідзе аб маёмасных абавязацельствах дзяржавы перад грамадзянінам, аб уласнасці. Таму тут павінен прысутнічаць механізм, які б даваў пэўную ступень гарантыі і абароны дзеля пазбягання злоўжыванняў, фальсіфікацый, спекуляцыі.

**— Але ж чэргі і неразбярыха — спадарожнікі недалёкага мінулага — суправаджаюць дзе-нідзе прыватызацыю.**

— Калі мы рыхтавалі Закон, ведалі, што такое прыкладна адбудзецца. Трэба было весці паралельна падрыхтоўку банкаўскай сеткі. У нашай дзяржаве раней і, на жаль, зараз хтосьці разлічвае, што гэта ўсё размовы і да прыватызацыі мы не прыйдзем. Тым не менш, Закон прыняты Вярхоўным Саветам, і ён будзе праводзіцца ў жыццё.

**— Што бы Вы параілі людзям у дадзенай сітуацыі?**

— Я б прапанаваў праяўляць у гэтай справе болей стрыманасці, чым гарачлівасці. На сённяшні дзень імянны прыватызацыйны чэк больш устойлівая каштоўная папера, чым нават грошы. Таму што ён непадуладны інфляцыі. Ён падлягае пераацэнцы ў залежнасці ад пераацэнкі асноўных фондаў. На атрыманне чэкаў даецца цэлы год, нават большы тэрмін. Пасля пяць гадоў — на выкарыстанне. Так што спяшацца не трэба, а спакойна ва ўсім разабрацца. Але для гэтага трэба валодаць пэўнай інфармацыяй.

**— Але ж яе якраз і не хапае. У параўнанні з расійскімі сродкамі масавай інфармацыі нашы выглядаюць у гэтым плане вельмі сціпла.**

— Пераважная колькасць нашага насельніцтва пра рынак каштоўных папер мае цьмянае ўяўленне. Мы толькі пачынаем развіваць такі напрамак, а тут раптоўна практычна ўсе грамадзяне Рэспублікі Беларусь павінны зрабіцца ўдзельнікамі гэтага рынку. Таму патрэбны даступныя тлумачальныя формы. Зараз пачала з'яўляцца на тэлебачанні, радыё, у газетах некаторая інфармацыя. Але яна разлічана ў большай ступені на спецыялістаў. Трэба спрасціць форму падачы, каб стала зразумелай сутнасць і селяніну, і хатняй гаспадыні, і пенсіянеру.

**— Як ідзе прыватызацыя ў нашай краіне? Ці задаволены Вы яе ходам?**

— Лічу, што з прыватызацыяй мы крыху спазніліся. Мы прыйшлі да вельмі небяспечнага становішча, калі практычна ўсе прамысловыя прадпрыемствы ў эканамічным плане выглядаюць непрыглядна. Тры гады таму яны былі больш устойлівыя фінансава і эканамічна. І тым не менш адступаць нам няма куды. Трэба шукаць такія шляхі, каб прыватызацыя пайшла і несла выгаду грамадзянам і інвестарам. Тут можна льгатаваць працоўныя калектывы, ствараць лепшыя ўмовы для ўдзелу нашага і замежнага капіталу. Мы ў стане вырашыць любую задачу, калі таго пажадаем. На жаль, зараз назіраецца даволі дзіўная карціна: з'явіліся людзі, якія, зыходзячы з палітычнай кан'юнктуры, спрабуюць давесці, што... прыватызацыя нам не патрэбная. Марныя намаганні. Механізм запушчаны, і ён незваротны. Зараз час займацца не марнаслоўем, а стваральнай працай, калі трэба —уносіць карэкціроўкі ў Закон.

Хачу звярнуць увагу і на такі момант. Некаторыя эканамісты, юрысты спрабуюць разважаць пра нашу прыватызацыю на падставе расійскага вопыту. Нічога агульнага ні па формах, ні па змесце ў нас і ў Расіі няма. У нас не існуе ваўчараў, а ёсць каштоўная папера, якая завецца імянным прыватызацыйным чэкам і з'яўляецца даўгавым маёмасным абавязацельствам дзяржавы перад грамадзянінам.

Што зараз непакоіць спецыялістаў? Ці здолее дзяржава пад нашы чэкі аддаць той аб'ём дзяржаўнай маёмасці, які забяспечыць іх цану. Калі не — значная частка людзей можа стацца падманутай, а гэта можа выклікаць незадаволенасць грамадства.

**— Наколькі падрыхтаваныя спецыялісты Дзяржмаёмасці да прыватызацыі і таго аб'ёму работы, які патрабуецца выканаць?**

— Прыватызацыя — гэта толькі адзін з аспектаў дзейнасці Міністэрства па кіраванні і прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці. Каласальнай дзяржмаёмасцю трэба кіраваць і перашкаджаць яе разрабаванню, знішчэнню. Міністэрства прадстаўляе сёння інтарэсы дзяржавы як уласніка ў канкрэтным сутыкненні з гаспадарчымі аб'ектамі. Таму, з аднаго боку, Дзяржмаёмасці зараз цяжка працаваць, таму што вопыту правядзення прыватызацыі яна не мае. У кожнай краіне складваецца свая псіхалагічная, сацыяльная і палітычная сітуацыя. Ёсць асаблівасці і ў нас, і іх трэба ўлічваць. Дзяржмаёмасць сёння сутыкаецца з рознымі праблемамі, але самая складаная — процідзеянне працэсу з боку міністэрстваў, якія не хацелі б губляць кіраўніцтва значнай часткай дзяржмаёмасці.

Пазіцыя нашай камісіі — патрэбна ўзняць статус Міністэрства па кіраванні і прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці, а яго міністр павінен знаходзіцца на ўзроўні намесніка прэм'ер-міністра.

На сённяшні дзень — да моманту выдачы імянных прыватызацыйных чэкаў — трэба мець дастаткова шырокую сетку акцыянерных прадпрыемстваў. Пакуль акцыі знаходзяцца ў Дзяржмаёмасці. Аднак куды лягчэй і хутчэй было б прадаставіць магчымасць грамадзянам правесці абмен сваіх чэкаў на акцыі прадпрыемстваў. Пакуль жа попыт перавышае прапанову. Людзі, атрымаўшы чэк, будуць чакаць, калі дзяржава ім прапануе рынак маёмасці. Паўза не павінна зацягвацца. Наступны момант. Незразумела, чаму ў нас не ідзе малая прыватызацыя — камунальнай маёмасці? Чаму тут ідзе прыхаванае, негалоснае супрацьдзеянне? Колькі часу будзе трымацца манаполія гандлёвай сеткі над спажывецкім рынкам і колькі часу яна будзе дыктаваць умовы гульні вытворцам і спажыўцам? Трэба разрываць гэты зачараваны вузел! І яшчэ, разглядаючы Закон аб бюджэце, мы прынялі рашэнне, што ўсе сродкі, атрыманыя ад прыватызацыі камунальнай маёмасці, паступаюць у распараджэнне мясцовых бюджэтаў. Аднак, працэс не ідзе. Відаць, камусьці гэтага рабіць вельмі не хочацца. Дзяржаўную палітыку абавязаны праводзіць тыя, хто займае адпаведную службовую пасаду. Калі не знойдзецца разумення, будзем вымушаны вырашаць праблему, так бы мовіць, зверху, бо размова ідзе аб дзяржаўных інтарэсах і маёмасці , інтарэсах і правах нашых грамадзян. Дзяржава дала абавязацельствы людзям, значыць, трэба іх выканаць. Іншага проста не дадзена.

**— Што б Вы маглі параіць уладальнікам чэкаў? Куды, на Ваш погляд, іх выгадней укладаць?**

— Закон прадастаўляе шырокія магчымасці. Чалавек мае права падараваць, прадаць, укласці ў нейкі аб'ект, абмяняць на акцыі канкрэтнага прадпрыемства або змясціць у інвестыцыйны фонд, распараджацца і разлічваць на ягоныя дывідэнды. Але паўтаруся, не трэба спяшацца, лепей вывучыць сітуацыю, ацаніць яе і потым зрабіць выснову. А для гэтага патрэбна добра валодаць інфармацыяй. Многа карыснага даюць у гэтым плане газеты «Беларускі рынак», «Беларуская эканамічная газета». Той, хто здольны рызыкаваць самастойна, можа паспрабаваць і зараз. Большасць насельніцтва не ўмее пакуль працаваць з каштоўнымі паперамі, таму раю звяртацца ў інвестыцыйныя фонды, дзе працуюць прафесіяналы, дзе могуць даць адносна больш высокую гарантыю атрымання дывідэнду. Трэба зазначыць, у нас існуе пакуль яшчэ адзіны Першы беларускі інвестыцыйны фонд, які, праўда, не да канца афармлены ў арганізацыйна-прававым парадку. Асабіста я аддаў бы перавагу недзяржаўнаму інвестфонду з дастаткова высокім устаўным фондам і гарантыяй прафесійнай работы.

Мы абралі свой шлях прыватызацыі, адрозніваемся часавым фактарам, скажам, ад расійскага, бо не жадаем, каб ён вісеў над кожным чалавекам дамоклавым мячом.

**— Як адаб'ецца прыватызацыя на сферы культуры?**

— Тое, што тычыцца аб'ектаў сацыяльнага і культурнага прызначэння, асобна пазначана ў Законе. Будынак сам па сабе не здольны прыносіць дывідэнды. Прыбытак даюць творчыя калектывы. Прыватызаваць Дамы культуры і іншыя ўстановы з тым, каб атрымліваць сродкі і пакрываць іх утрыманне, зараз немэтазгодна. У нас і так не хапае асяродкаў культуры. Іх трэба дзяржаве, наадварот, падтрымліваць.

**— Як пойдзе беларуская прыватызацыя ў выпадку аб'яднання грашовых сістэм Беларусі і Расіі?**

— Зараз цяжка сказаць, як гэта адаб'ецца на нашай прыватызацыі. Я цвёрда ўпэўнены, вельмі хутка адкрыецца доступ расійскаму капіталу да нашых уласнасці і маёмасці. Вядома, гэта будзе скіравана на найбольш прыярытэтныя сферы і перспектыўныя прадпрыемствы. Што тычыцца самога зместу імяннога прыватызацыйнага чэка, то ён не зменіцца, зменіцца намінал. У выпадку аб'яднання грашовых сістэм ягоны намінал будзе пералічаны на расійскія рублі, але пры гэтым пройдзе пераацэнка асноўных фондаў прадпрыемстваў. У прынцыпе, на маю думку, праблемы ўзнікаюць толькі таму, што ў Расіі ўжо заканчваецца працэс бязвыплатнай прыватызацыі, якую яны праводзяць па сваёй схеме — ваўчарнай, што рэзка адрозніваецца ад нашай. Ці сумесцяцца абедзве мадэлі? Ці здольныя мы будзем праводзіць аўтаномна ўласную? Цяжка вызначыць. Але ж расійскі вопыт мае для нас у нейкім сэнсе і станоўчы момант. Там ужо мільёны грамадзян сталі акцыянерамі, а на Беларусі іх няма.

Наша дзяржава мае прыярытэтнае права, хачу гэта падкрэсліць, аддаваць пры прыватызацыі ўласнасць сваім грамадзянам на падставе тых законаў і працэдур, якія выпрацаваны. Самае ж галоўнае — пазіцыя гэтых Вярхоўнага Савета і ўрада і тых, што прыйдуць на змену, павінна заключацца ў тым, каб адстойваць інтарэсы грамадзян Рэспублікі Беларусь.

**Гутарку вяла Алеся НАДЗЕІНА.**

# БУХТА СМУТКУ

З АРХІВА ЗЛАЧЫНСТВАЎ

## ЗАМЕСТ УСТУПУ

**Пра масавыя рэпрэсіі 30 — 40-х гадоў напісана шмат. Асаблівая цікавасць да гэтых трагічных старонак нашай гісторыі тлумачыцца перадусім імкненнем выкрыць таталітарызм у мінулым і сёння, не дапусціць ягонага паўтарэння. Прыадчыніліся архівы, паступова павялічваецца спіс публікацый па гэтай праблеме, і ўсё больш з'яўляецца спакуса заявіць: «Усё зразумела!». Але гэта далёка не так...**

**Па волі лёсу на працягу некалькіх гадоў мне давялося ў якасці члена Савета Томскага гісторыка-асветнага, праваахоўнага таварыства «Мемарыял» браць удзел у працэсе аднаўлення справядлівасці ў дачыненні да нашых суграмадзян, рэпрэсаваных на тэрыторыі Заходняй Сібіры ў 30 — 40-я гады. Неаднойчы ў складзе экспедыцый даводзілася знаходзіцца ў Нарыме, Калпашаве, Беластоку і іншых сумна вядомых месцах зняволення. За гэтыя гады, акрамя вывучэння афіцыйных дакументальных крыніц, давялося запісваць успаміны сведак, што засталіся ў жывых, весці з імі перапіску, часта ездзіць, сустракацца з людзьмі. Тэме масавых рэпрэсій і рэабілітацыі ахвяраў тэрору была прысвечана і кандыдацкая дысертацыя.**

**У нас, на Беларусі, пакуль амаль нічога не ведаюць аб лёсах няшчасных ахвяраў, закінутых у сібірскую далеч, якія згубіліся па злой волі тыранаў і іхніх служкаў. Частка людзей знойдзена, іхнія лёсы ўведаны — ці ж можна дапусціць, каб яны зноў згубіліся на архіўных паліцах, каб ні блізкія, ні сябры, ні нашчадкі так ніколі нічога пра іх і не дазналіся?**

**Мабыць, для нашай вялікай гісторыі істотна ведаць і тое, колькі ж іх, ураджэнцаў Беларусі, так званых «ворагаў народа», загінула ў жорсткай ідэалагічнай вайне партыйнай тыраніі супраць уласных народаў, у тым ліку і беларускага.**

**На працягу шэрагу гадоў мне давялося пераадольваць упартае супраціўленне тэрытарыяльных органаў КДБ. У выніку ўсё ж такі я здолеў атрымаць пэўную інфармацыю пра лёсы ўраджэнцаў Беларусі, рэпрэсаваных у 30 — 40-я гады на тэрыторыі былога Заходне-Сібірскага краю. Удалося ўзнавіць лёсы больш за трох тысяч нашых землякоў. Праведзены аналіз дадзеных паказаў, што асноўнымі прычынамі іхняга арышту (да 90 працэнтаў) было быццам бы ўчыненне контррэвалюцыйных злачынстваў. «Пік» рэпрэсій прыпадае на 1937-1938 гады, каля 80 працэнтаў усіх асуджаных былі расстраляныя, мінімальны тэрмін пазбаўлення волі —5 гадоў — атрымалі не больш за 2 працэнты.**

**Дык ці ўся праўда сказана?**

**Чаму сёння працэс развалу былога Саюза падзяліў на «нашых», рэпрэсаваных на тэрыторыі Беларусі, і на «не нашых», што загінулі на Поўначы, Урале, у Сібіры і іншых рэгіёнах краіны?**

**Архівы толькі пачалі гаварыць. Занадта рана зачыняць тэму «страшэннага жніва» рэпрэсій, сумны мартыралог нявінных ахвяраў нядаўняга мінулага.**

**Аўтар.**

Мястэчка Калпашава невялікае, і да нядаўняга часу было мала вядомае. У памяці Расіі іншае слова: Нарым, Калпашава — некалі адміністрацыйны цэнтр Нарымскай акругі, асаблівай тэрытарыяльнай адзінкі ў складзе Заходне-Сібірскага краю, адведзенай для вынішчэння найбольш працавітых сялян.

Нарым — сібірскі Асвенцім, што пераўзыходзіць, аднак, па тэрыторыі многія еўрапейскія дзяржавы. З усяе Сібіры, з Беларусі, з Масквы і Ленінграда звозілі сюды кулакоў, падкулачнікаў, інтэлігентаў. У непралазных балотах, у тайзе, якую яны карчавалі з дапамогай першабытных прыладаў, ляжаць лепшыя прадстаўнікі земляробчага саслоўя. Пасля кастрычніка 1917 года ў Калпашаве забівалі заўсёды. Свае — сваіх. Але асабліва шмат загінула тут людзей пачынаючы з перыяду так званага спецперасялення. Падчас калектывізацыі ў Нарымскую акругу было саслана шмат сем'яў раскулачаных. Пра маштабы гэтай высылкі сведчыць лічба — 192 тысячы чалавек, прычым колькасць тых, хто выжыў на працягу першых двух-трох гадоў, склала, напэўна, каля 40 працэнтаў. Апошняя лічба ашаламляе, але не забывайцеся, пры якіх абставінах спецперасяленцы траплялі ў ссылку: ці па марозе па зімніках, ці — часцей так яно і было — на баржах падчас кароткага паўночнага лета. А ўладкоўвацца даводзілася на голым месцы, са старымі і дзеткамі на руках, з мінімумам пасяўнога матэрыялу і без вопыту, як можна вырошчваць хлеб на балотах.

Масавыя расстрэлы пачаліся ў другой палове трыццатых гадоў, калі ў мясцовым НКУС сталі фабрыкавацца бязглуздыя, фантастычныя «справы» накшталт справы «паўстанцкага цэнтра», які быццам бы быў тайна сфармаваны ссыльнымі інтэлігентамі, рыхтаваўся да паходу на Томск і чакаў толькі дамоўленга сігналу, каб нанесці сакрушальны ўдар па Савецкай уладзе. Падчас правядзення масавай акцыі па «вынішчэнні ворагаў народа» ў кастрычніку 1937 года з нізоў ракі Об у Нарымскі акруговы аддзел НКУС на дзвюх баржах прывезлі «ворагаў народа» з Аляксандраўскага, Каргасокскага, Парабельскага, Калпашаўскага раёнаў. З мэтай забеспячэння аховы вязняў гэтыя баржы былі пастаўлены на якар пасярэдзіне ракі, адкуль арыштаваныя дастаўляліся ў акруговы аддзел на бераг Калпашава на лодках.

Сведчыць былы оперупаўнаважаны акраддзела НКУС С.Караваеў: «Была створана спецыяльная брыгада. Для падтрымання іх баявога духу пастаянна выдаваўся спірт. Побач з будынкам акраддзела была вялікая пляцоўка, абнесеная высокім плотам, там была вырыта яма. Да яе можна было падысці па спецыяльным трапе. У момант расстрэлу выканаўцы знаходзіліся ў сховішчы, а пры падыходзе арыштаванага да пэўнага месца раздаваўся прыцэльны стрэл, звычайна ў патыліцу, і ён звальваўся ў яму».

Што ўяўляў сабою будынак акраддзела НКУС? Па словах сведак падзей, ён знаходзіўся за 30 — 40 метраў ад берага ракі Об і быў абнесены трохметровым плотам па перыметры 150х150 метраў. Непадалёк ад адміністрацыйнага корпуса НКУС знаходзіўся будынак турмы, што складаўся з шасці камер. Тут утрымліваліся арыштаваныя і прысуджаныя да расстрэлу ў 30-я гады падчас масавых рэпрэсій асобы, а таксама ўдзельнікі Чаінскага і Сургуцкага паўстанняў 1931-1932 гг. Тут жа, у будынку турмы, у адной з камер прыводзіліся ў выкананне прысуды асобам, што былі прысуджаны «тройкамі» да расстрэлу. У турму прыбывалі этапы па 40 — 50 чалавек. Трупы расстраляных паслойна перасыпаліся гашанай вапнай (каб яшчэ раз потым не закапваць да прыбыцця чарговай партыі. — І.К.) у ямах, выкапаных у двары. Пазней расстраляных закапвалі проста ў камерах. Ямы з трупамі засыпаліся зямлёй і нічым не адзначаліся.

Толькі ў адзін дзень 8 снежня 1937 года такім чынам было знішчана звыш 200 чалавек. Назаву выяўленыя прозвішчы некаторых з нашых землякоў: Адамскі Браніслаў Генрыхавіч, 1894 года нараджэння, Бараноўскі Аляксандр Фаміч, 1893 г.н., Белых Фёдар Яфімавіч, 1888 г.н., Варанецкі Сцяпан Вікенцевіч, 1909 г.н., Галдоўскі Самуіл Авакумавіч, 1881 г.н., Грышын Іван Паўлавіч, 1886 г.н., Здановіч Іван Васілевіч, 1910 г.н., Здановіч Станіслаў Вікенцевіч, 1882 г.н., Іваноўскі Іосіф Мікалаевіч, 1903 г.н., Кісель Іван Іосіфавіч, 1878 г.н., Козак Франц Мартынавіч, 1899 г.н., Калмакова-Асухоўская Ганна Эдуардаўна, 1878 г.н., Кужэўскі Фёдар Францавіч, 1867 г.н., Лайко Іван Васілевіч, 1895 г.н., Левандоўскі Уладзімір Нікізавіч, 1902 г.н., Лядзінскі Мефодзій Іванавіч, 1902 г.н., Татыржа Баніфат Адамавіч, 1895 г.н. і іншыя.

Колькі чалавек было расстраляна ў 1927 — 1938 гг., вызначыць дакладна ўжо немагчыма. Але, зыходзячы з указанняў НКУС па Заходне-Сібірскім краі, паводле якіх трупы ўкладваліся ў ямы памерам 5х3 метры і глыбінёй 2 метры ў «штабель» па 10-12 у радзе, можна меркаваць, што ў гэтых могілках знаходзілася не меней за 4 — 5 тысяч нявінна забітых.

Пасля вайны будынак акраддзела НКУС быў зруйнаваны, і на гэтым месцы ўтварылася пустэльня. Прайшлі гады... Наступ ракі на горад прывёў да таго, што пачынаючы з 1960 года тэрыторыя былога НКУС пачала абвальвацца ў раку Об. З тае пары і пачалі выяўляцца часам брацкія магілы расстраляных. Непакоіліся ўлады. Праводзіліся буравыя работы на тэрыторыі, што належала раней акраддзелу. Першая стадыя работ па хімічным вынішчэнні пахаванняў праводзілася ў 1968 годзе. Тэхналогія работ складалася з наступнага. Бурылі пэўныя свідравіны. Пры выхадзе костак свідраванне рабілася больш упарадкаваным, больш частым. У свідравіны, дзе знаходзілі косткі, засыпалі ад трэцяй часткі да паловы меха белага рэчыва і добра палівалі вадою шлангам з цыстэрны машыны. Потым кожная свідравіна засыпалася грунтам. Пасля заканчэння работ «геолагі» дзень-два «прасавалі» тэрыторыю гусенічным бульдозерам, утрамбоўваючы верхні грунт, узрыхлены свідраваннем. Усе гэта пачало адбывацца, калі першым сакратаром Томскага абкама КПСС быў Я.Лігачоў. Тады ж, вясной 1979 года адбыўся і жахлівы выпадак. Вясна вызначылася высокім узроўнем паводкі, і ў выніку апоўзняў пасыпаліся чалавечыя чарапы ды косткі з масавага пахавання. Першавынаходнікамі былі хлопчыкі. Яны падбіралі чарапы, гулялі з імі, бегалі па горадзе з чарапамі на палках, прыносілі іх дадому. Гэта «захапленне» дзяцей не выклікала занепакоенасці ў міліцыі. Толькі бацькі лаялі сваіх дзяцей і патрабавалі прыбраць чарапы з добра бачнымі ў іх кулявымі адтулінамі.

Абвал 30 красавіка 1979 года зрабіў бачнаю вялізную яму з літаральна муміфікаванымі трупамі. Многія астанкі захаваліся выключна добра. Па-першае, яны знаходзіліся ў пясчанай глебе, што забяспечвала вентыляцыю, неабходную для хуткага — на працягу некалькіх месяцаў ці года — высыхання целаў. Па-другое, пры пахаванні выкарыстоўвалася хлорная (ці, магчыма, нягашаная) вапна. На зрэзе захавання можна было бачыць, што чалавечыя астанкі размешчаны слаямі і падзяляюць іх насцілы з досак і праслойкі акамянелай вапны. Адзначаўся таксама моцны пах крэазоту. Прысутнасць дэзінфіцыруючых сродкаў, напэўна, захавала ад гніення трупы ў ніжніх радах.

Дык вось, калі чарапы ды косткі пераўтвараліся ў крышава пры абвале берага і адразу ж ішлі на дно, дык лёгкія муміфікаваныя астанкі ўсплывалі, і рака несла іх на поўнач, і гэта было бачна ўсяму гораду, таму што большая частка сённяшняга Калпашава размешчана ніжэй па цячэнні: і рачны вакзал, і забудаваны прыватнымі дамамі жылы раён...

Улады спахапіліся не адразу. Усе рыхтаваліся да маючых адбыцца майскіх святаў. Хтосьці, магчыма, і пахаваў бы загінуўшага, але акругу абляцела каманда: «Бандыты, ворагі народа, толькі — у раку. Хай сабе плывуць». Багром, вяслом, палкаю адсунуць на страмніну — плыві далей, да Нарыма, зусім побач ён — там, дзе адбываў ссылку таварыш Сталін, які павінен адказваць за зробленае, ён ведаў, якіх такіх бандытаў прыслалі па ягоным распараджэнні ў балота, у тайгу на смерць.

Нікому і ў галаву не прыходзіла перазахаваць расстраляных. Кулявыя адтуліны ў чарапах казалі аб тым, што з людзьмі ўжо аднойчы абышліся гранічна жорстка. Безумоўна, для людзей, што здзейснілі гэта, такі шлях здаваўся самым лёгкім, тым больш, што ён быў накрэслены органамі КДБ.

Далей у Калпашаве адбывалася вайна. Двухтыднёвая бітва жывых з мёртвымі. Мэтанакіравана, павольна, на будзённым фоне правінцыйнага гарадка, дзень за днём, ноч за ноччу...

Пахаванне было вырашана змыць у раку. Хаця спачатку была зроблена спроба раскапаць магілы з берага і вывезці расстраляных на аўтамашынах у кар'ер, але хутка ад гэтага адмовіліся. З той прычыны, верагодна, што канфігурацыя пахавання аказалася няпростай, а колькасць трупаў — вялікай. Выкарыстоўваць тэхніку на краі абрыву перашкаджаў рухомы пясчаны грунт. І нягледзячы на тое, што было дастаткова жадаючых зрабіць гэта ўручную, было прынята рашэнне проста размыць бераг. Тыдзень вяліся падрыхтоўчыя работы, а да 10 мая ў Калпашава прыйшлі магутныя буксіры. Іх паставілі кармой да берага, цвёрда замацаваўшы лябёдкай. На поўных абаротах запрацавалі вінты, і адкідваемая імі вада ўдарыла пад абрыў. Бераг мылі ўдзень і ўночы. Трупы з ям пачалі падаць у ваду.

Сведчыць капітан буксіра ОТА-375 В.Чарапанаў: «Замёрзлы верхні слой глебы абвальваўся вялікімі кавалкамі пры размыванні ніжняга талага слоя зямлі. Мылі з 11 па 15 мая. Было шмат ямаў. Трупы былі цэлыя, markрознай велічыні. Бачыў на трупах ружова-белую бялізну. Трупы плавалі. Кагэбэшнікі фатаграфавалі. Нам забаранілі сыходзіць на бераг. Цеплаход амаль увесь увайшоў у бераг (утварылася бухта)...»

У гэты час на рацэ Об, акрамя судоў, што размывалі берагі, знаходзіліся яшчэ катэры і лодкі — для таго, каб пераймаць трупы. Тое, як «працавалі» катэры, мог бачыць увесь горад. Трупы, што плылі па рацэ, вылаўлівалі баграмі, падвешвалі да іх ног ці да пояса металічныя балванкі ці цагліны, якія складвалі па дзве і перакручвалі дротам. Тых, хто не жадаў, не ішоў на дно — рубілі вёсламі на кавалкі. Дзень за днём, ноч за ноччу... Некаторыя целы былі ўсё ж упушчаныя, іх бачылі потым за сотні кіламетраў ніжэй па рацэ.

Горад Калпашава перажываў цяжкія, ні на што не падобныя дні.

Гэта былі «антысавецкія» трупы. Насамапраўдзе, як яе разумелі тады, гэтых трупаў не было, не павінна было быць. Успамін пра іх паспяхова выветрываўся са свядомасці некалькіх пакаленняў. Але ў Калпашаве нейкая незразумелая сіла супраціўлялася гэтаму, паўстала насуперак, нібы сама зямля, згвалтаваная, пакрытая неаплаканымі косткамі, аказалася больш чалавечнаю, чым людзі, што рабілі ганьбу і гвалт. Зямля сказала: глядзіце. І зямлі нашай быў дадзены адказ...

Чалавецтва ведала сапраўдныя зверствы, крывавыя войны, масавыя катаванні і страшэнныя пакуты, але ўсім злачынствам ва ўсе часы спрыялі нейкія асаблівыя гістарычныя абставіны і адыходы ад вышэйшай мэтазгоднасці, якімі апраўдвалі свае дзеянні палітыкі ды каты. У Калпашаве гэтага не было. Тут свае забівалі сваіх, ужо аднойчы забітых продкаў гэтак жа бязлітасна, як калісьці жывых. Але ў адрознасць ад першага разу — абсалютна бессэнсоўна.

Падвядзем жа і мы сваю рысу пад маною мінулага пятнаццацігоддзя. Справа была для маскоўскіх і томскіх уладаў звыклая і простая. Аднойчы забітыя зноў выйшлі вонкі, і патрабаваўся новы прысуд, каб перапыніць вылазку «класавага ворага». Патрабавался пацверджанне старога прысуду. Ніхто, акрамя некалькіх маўклівых людзей, не ведае сёння, у якім кабінеце і пад чыім старшынствам збіраўся новы склад Асобай нарады.

Кажуць, што не ўвесь гэты жахлівы пясчаны маўзалей быў вымыты тады. Быццам бы засталася яшчэ адна яма. А раптам — праўда? Раптам дрэнна вынішчылі?

І што, зноў паплывуць трупы па рацэ?..

**Ігар КУЗНЯЦОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук, дацэнт.**

Томск — Мінск.

# Божніцы

*Яшчэ стагоддзе таму ў гарадах і мястэчках Беларусі можна было сустрэць незвычайныя збудаванні. Груваcтыя, з высокімі шапкамі стрэх, яны нечакана выступалі з сілуэта, створанага макаўкамі і купаламі цэркваў, вежамі касцёлаў, званіц, ратуш, мінарэтамі мячэцяў. Іх называлі божніцы. Нават сама назва нагадвала пра нешта старажытнае. Сапраўды, божніца, божышча — словы не толькі блізкія па гучанні. Апошняе абазначае старажытнае свяцілішча дахрысціянскіх паганскіх часоў. У слове «божніца» мова ўвасобіла той гістарычны шлях, што выйшаў з глыбінь тысячагоддзяў...*

*Божніцамі на Беларусі называлі яўрэйскія сінагогі. Паняцце сінагога адпавядае яўрэйскаму кнэсэт, сход, дом сходу і, як царква ў праваслаўных ці касцёл у каталікоў, мае шырокае значэнне. Гэта не толькі пабудова, але і сімвал яўрэйскага духоўнага адзінства, пэўная рэлігійная плынь.*



У ДРУГОЙ палове I тысячагоддзя да нашай эры Палесціна, як і іншыя рэгіёны Усходняга Міжземнамор'я, трапляе пад уладу персаў. Тысячы іудзеяў трапілі ў рабства і апынуліся ў іншых рэгіёнах велізарнай дзяржавы Ахеменідаў. У 458 годзе персідскі цар Артаксеркс Лонгіман дазваляе легендарнаму яўрэйскаму святару Ездры, які лі-чыўся праўнукам першасвятара Хелькіма, вярнуць частку іудзеяў з Вавілона ў Палесціну. На радзіме продкаў святар пабачыў, што традыцыі бацькоў пачалі забывацца, шлюбы з іншапляменнікамі спрыялі выхаванню моладзі паводле чужых звычаяў. Пачала забывацца і старажытная іудзейская мова. Праводзячы рэформы, накіраваныя на адраджэнне традыцый, навучанне Закону Божаму і чытанню свяшчэнных кніг Майсея, Ездры, даводзілася звяртацца да старажытнахалдзейскай і арамейскай моў. Прапаведнік іудзейскага светапогляду стварае згуртаванне вучоных і знаўцаў традыцый і веравызнання іудзейскага народа, якое, паводле талмудычных крыніц, атрымала назву Вялікай Сінагогі. Мэтай дзейнасці яе было адраджэнне сумлення, нацыянальнай самасвядомасці ва ўмовах іншаземнага заваявання. Магчыма, менавіта ў тыя часы ўзнікла і сінагога — збудаванне, прызначанае для грамадскага набажэнства і чытання Свяшчэннага Пісання. Патрэба ў спецыяльных пабудовах узнікла пасля ўстанаўлення традыцыі чытання Пяцікніжжа па суботах і святочных днях. Пазней грамадскія чытанні распаўсюдзіліся на панядзелак і чацвер, а таксама на дні кірмашоў.

Да пачатку нашай эры сінагогі існавалі ва ўсіх рэгіёнах рассялення яўрэйскага насельніцтва. Паданні сцвярджаюць, што найбольшая



колькасць сінагог знаходзілася ў Ерусаліме. Іх тут налічвалася 480. Правінцыя Палесціны Галілея з-за вялікай іх колькасці ўвогуле называлася краінай сінагог. Акрамя Палесціны сінагогі будаваліся ў Дамаску, Александрыі, Антыёхіі, Эфесе, Карынфе, Афінах і нават у Рыме. Сінагога ў іудзейскім горадзе Кесарыі (Цэзарэі) была цэнтрам падрыхтоўкі паўстання супраць прыгнятальнікаў і ўвайшла ў гісторыю як сінагога паўстання.

На пачатку нашай эры, з усталяваннем Рымскай імперыі, Іудзея трапляе ў склад правінцыі Сірыі. Вышэйшае іудзейскае рэлігійна-палітычнае кіраўніцтва (сінедрыён) страціла рэальную ўладу і займала чыста сімвалічнае становішча. Раскватаравалы тут рымскі легіён, пракуратары і іншыя чыноўнікі даймалі насельніцтва бясконцымі паборамі, сістэматычна парушалі мясцовыя традыцыі, у тым ліку і рэлігійныя. Адначасова ішоў працэс сацыяльнага расслаення насельніцтва. Нашчадкі дынастыі Ірада (садукеі) падтрымлівалі рымлян. Прыхільнікі старажытных звычаяў і рытуалаў (фарысеі) змагаліся за самакіраванне. У 66 годзе ў адказ на выдаленне іудзеяў з гарадскога самакіравання ў Кесарыі выбухнула паўстанне ў Ерусаліме. Не апошнюю ролю адыгралі і злоўжыванні пракуратара Гесія Флора. Рымскі гарнізон быў перабіты, паўстанне ахапіла ўсю правінцыю. Імператар Нерон накіроўвае войскі пад камандаваннем Флавія Веспасіяна (будучага імператара). З вялікімі цяжкасцямі ён перамагае паўстанцаў. Ерусалім даводзіцца браць штурмам. Галоўны храм горада стаў апошняй цытадэллю, ён быў спалены і зруйнаваны. Толькі ў верасні 70 года скончылася вайна. Адным з наступстваў стала рассяленне яўрэяў па Рымскай імперыі, якая займала тэрыторыю ўсяго Міжземнамор'я, заходнюю і цэнтральную Еўропу, поўнач Афрыкі і Блізкі Усход.

На складванне архітэктурнага вобліку сінагогі істотны ўплыў зрабілі традыцыі і прыёмы культавага дойлідства Міжземнамор'я эпохі элінізму і Рымскай імперыі. Базілікальны план, аснову якога ўтварала прасторнае памяшканне, падзеленае шэрагамі калон на падоўжныя нефы, стаў апірышчам антычных храмаў. З боку ўваходу і па баках рабіліся порцікі з каланадай. Прыгадаем, што такая будова храма была ўласцівая старажытнаегіпецкім Карнаку і Луксору, храмам Грэцыі. Такая архітэктура з'яўлялася вынікам развіцця архітэктуры жытла краін Усходняга Міжземнамор'я. Ва ўмовах субтрапічнага клімату жылыя памяшканні палацаў і віл размяшчаліся ў глыбіні каланад. Перад уваходам у жытло (атрыум) часта сустракаўся басейн з фантанам. Менавіта такі выгляд мелі і ранневізантыйскія храмы, дзе ў цэнтры каланады ўладкоўвалася чаша для рытуальнага амавення (фіял).

Першыя сінагогі ўяўлялі прамакутнык у плане пабудовы, падзеленыя калонамі на нефы, з порцікам з боку ўваходу. Арыентацыя сінагогі вызначалася такім чынам, каб алтарная частка была абавязкова звернута да Ерусаліма. Па меры рассялення яўрэяў па краінах Еўропы пабудаваныя імі сінагогі ўвасаблялі стылёвыя рысы архітэктуры пэўных народаў і эпох. Так, сінагогі, збудаваныя ў Вормсе і Празе, набылі рысы візантыйскага дойлідства. Тая частка яўрэяў, што рухалася ў Еўропу праз Іспанію, шмат што запазычыла ад архітэктуры арабаў часоў халіфата (Севілья, Грэнада і іншыя). Сінагогі ў маўрытанскім стылі збудаваны ў Таледа (IX і XIV стст.), а таксама ў Вене, Берліне і Франкфурце. Раманскім стылем вызначаюцца сінагогі Мюнхена і Брэслаў. Сінагога ў Кёльне і шматлікія сінагогі Польшчы збудаваны ў стылі готыкі.

Ва ўнутраным абсталяванні сінагог, безумоўна, ёсць цікавыя і своеасаблівыя элементы. Так, ля сцяны, звернутай да Ерусаліма, мелася невялікае ўзвышэнне над падлогай, альмэ мор, накшталт царкоўнай салеі. Абсталёўвалася біма — месца для чытання Свяшчэннага Пісання. Каля ўсходняй сцяны знаходзілася сховішча духоўных тэкстаў (каўчэг). Сярод іншых, рухомых атрыбутаў трэба адзначыць сямісвечнік, зробленыя з бронзы, трубныя рогі, валторны. Гэтыя музычныя інструменты выкарыстоўваліся падчас набажэнства на Новы год і іншыя святы. У некаторых еўрапейскіх сінагогах гучаў арган.

Асаблівасцю ўнутранага абсталявання з'яўлялся падзел асноўнага літургічнага памяшкання на мужчынскую і жаночую часткі (што ўвогуле ёсць адной з найстаражытных традыцый усходу). Прыгадаем, напрыклад, мячэці на Беларусі — там таксама памяшканні падзяляліся на мужчынскую і жаночую часткі. Алтары сінагог багата ўпрыгожваліся разьбянымі арнаментам, узорамі мастацкага кавальства і ліцця. У багацці ўзораў, раслінным і зааморфным характары іх матывы прасочваюцца агульныя для народаў Усходу традыцыі і эстэтычныя ўяўленні.

У XIV ст. ускладняюцца нацыянальныя адносіны паміж шматлікімі і дробнымі нямецкімі княствамі, герцагствамі і графствамі. У выніку значная колькасць яўрэйскага насельніцтва перамясцілася ў Польшчу і далей на ўсход, на землі Беларусі. Пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі Кацярына II увяла так званую





мяжу аседласці, у выніку чаго пачала расці колькасць яўрэяў у гарадах і мястэчках. У буйных гарадах узнікалі яўрэйскія прадмесці, слабоды-ўрочышчы.

Калі спрабаваць вызначыць агульныя рысы сінагог (божніц) на Беларусі, то трэба мець на ўвазе, што ў параўнанні з аналагічнымі пабудовамі ў іншых краінах тут назіраецца выразная адметнасць. Галоўная з іх — увасабленне ў архітэктуры стылізаванага і пераасэнсаванага вобраза жытла, каўчэга. Гэтым можна растлумачыць, што ўсе беларускія божніцы складаюцца з цэласнага, значных памераў аб'ёму пад дахам, блізкім да шатровага. Яскравы прыклад — архітэктура сінагогі XIXст. у Ашмянах, дзе прамакутны аб'ём рытуальнай залы пераходзіць у чатырохсхільны дах. З-за значных памераў і канструкцыйных патрэб дах мае ступенчатую будову, абумоўленую двух'яруснай канструкцыяй кроквеннай сістэмы. Такія дахі, як вядома, упрыгожвалі замкі, палацы, цэрквы і касцёлы. Тое ж можна сказаць і пра сінагогу XIXст. у Століне. Яе архітэктура яшчэ больш лаканічная, а прасторны дах набліжаецца да шатра. Унутраная прастора божніцы падзелена слупамі-калонкамі на асобныя нефы. Для Ашмянскай і Столінскай сінагог характэрны мінімум дэкаратыўнага і пластычнага аздаблення: пілястры, гарызантальныя паяскі і карнізы, арачныя і паўарачныя завяршэнні праёмаў.

Выразныя рысы барока адлюстроўваюцца ў архітэктуры Слонімскай сінагогі (XVIII ст.). Яе галоўны фасад упрыгожаны франтонам пластычнай формы. Архітэктура гэтай сінагогі хораша ўпісваецца ў ансамбль іншых помнікаў у Слоніме, пабудаваных у стылі барока — касцёла бернардзінак і бернардзінцаў, святога Андрэя і іншых.

Архітэктура некаторых мураваных божніц увабрала ў сябе і больш старажытныя рысы. Сведчаннем таму — сінагога XVIIст. у Быхаве. Яе памеры 20х21 метр, сцены таўшчынёю да 2 метраў. Звяртае на сябе ўвагу размешчаная ў куце вежа. Разам з вокнамі-байніцамі яна выяўляе абарончыя рысы пабудоў, характэрных, напрыклад, вобліку цэркваў у вёсках Сынкавічы і Мураванка, касцёла ў вёсцы Камаі, сядзібных дамоў у мястэчку Гайцюнішкі. Сінагога ў Іўі (XIX ст.) — помнік, які складаецца з трох будынкаў, прызначаных для



розных сацыяльных слаёў яўрэйскага насельніцтва: гандляроў, рамеснікаў, купцоў. У абліччы мураваных сінагог Іўя прасочваюцца рысы архітэктуры мадэрна.

Але найбольш арыгінальнай трэба ўсё ж прызнаць архітэктуру драўляных сінагог. Першае, што для іх уласціва, — гэта адзінства вобраза, ствараемага аб'ёмна-прасторавым вырашэннем. Аснова такога вырашэння — пераход прасторнага рытуальнага памяшкання ў шатровы, часта складанай формы, дах. Формы абхадных галерэй, прыбудоў нібы ў мініяцюры паўтараюць форму асноўнага аб'ёму. Прафесар архітэктуры Варшаўскага універсітэта Я.Клос зрабіў замалёўку сінагогі XVI ст. у мястэчку Высокім (зараз Камянецкі раён). Трох'ярусны шатровы дах асноўнага аб'ёму паўстае ў атачэнні шатроў прыбудоў (па тры з кожнага боку).

Шэраг фотаздымкаў драўляных сінагог пакінула нам Таварыства аматараў навукі, якое існавала ў 20-я — 30-я гады бягучага стагоддзя пры Віленскім універсітэце. Зараз гэтыя фотаздымкі захоўваюцца ў Цэнтральным гістарычным архіве Літвы. Вось фотаздымак сінагогі ў Глыбокім. Мы бачым яе сярод шараговай мястэчковай забудовы, яна дамінуе, вылучаецца памерамі. Фотаздымак сінагогі ў Волпе (Ваўкавыскі раён) ілюструе спалучэнне ўсходніх рысаў (шмат'ярусныя стрэхі з прыўзнятымі краямі, арачная галерэя) з прыкметамі архітэктуры барока. Тое ж адлюстравана і на фотаздымку божніцы XVIII ст. з Горадні. Але тут вертыкальныя пілястры і прамакутныя праёмы вокнаў, падзеленых на квадратныя шыбкі, сведчаць аб пранікненні стылёвых элементаў класіцызму.
Чысціню формам і кантраст у адносінах да пластыкі дахаў надае вертыкальная шалёўка сінагогі XVIII ст. у Сапоцкіне. На архітэктурнай адмыўцы (ад графікі) бакавога фасада божніцы ў Нароўлі бачна, наколькі дасканала распрацаваны яе формы і іх спалучэнні. У сукупнасці яны ствараюць суцэльны стройны ордэр: каскад стрэхаў нагадвае нібыта перавернутую капітэль ці, наадварот, базу калоны.



Захаваўся шэраг фотаздымкаў 1929 года інтэр'ера сінагогі ў Друі. Уражвае адмыслова выкананы разьбяны алтар. Яго мудрагелістыя ўзоры, каскад квяцістых карункаў нагадваюць персідскія дываны. Фігуры міфічных птушак, хімер падобныя да тых, што вядомыя нам па старажытных каменных барэльефах Палесціны, Сірыі, Вавілона. Угледзьцеся ў сілуэты драўляных хімер, што падтрымліваюць цэнтральную частку алтара. Хіба не нагадваюць яны аналагічныя фігуры антычных краін?

І формы, што захавалі стылістыку ўсходняе архітэктуры, і карункавы раслінны дэкор, і магічныя выявы звяроў і птушак хоць і сведчаць аб прысутнасці шырокіх міжкультурных рысаў, тым не менш яны — носьбіты канкрэтнай нацыянальнай спецыфікі. Архітэктура божніц, фармуючыся ў асяродку беларускага дойлідства і прымаючы ад яго канструкцыйныя і пэўныя фарматворныя асаблівасці, стварала сінтэз новых аб'ёмных рашэнняў, удасканальвала традыцыйныя і спрыяла з'яўленню новых формаў (шатровыя дахі, шматлікія галерэі, скляпеністыя перакрыцці, складаныя кроквенныя сістэмы і г.д.).

Сінагогі на Беларусі — бясспрэчна, цікавая старонка ў летапісе дойлідства нашай краіны, яе страчаныя радкі трэба шукаць і вывучаць.

**Аляксандр ЛАКОТКА.**

*На здымках:*

1. Сінагога ў Глыбокім. XVIII ст.

2. Сінагога ў Сакольскім павеце. XVIII ст.

3. Сінагога (божніца) у Нароўлі. XVIII ст.

4. Сінагога ў Ашмянах. XVIII ст.

5. Божніца ў Высокім (Камянецкі раён). XVI ст.

6. Інтэр'ер сінагогі ў Друі. XVIII ст.

7 — 8. Сінагога ў Друі. Алтар і фрагмент алтара.





КАНТРАМАРКА

# ЭКСПЕРЫМЕНТ. ПСІХАЛАГІЧНЫ І МАСТАЦКІ

Сталася так, што Тэатр юнага гледача ў апошнія гады выпаў з поля зроку публікі, спецыялістаў. Не пачуеш у асяроддзі тэатралаў не тое, што спрэчак пра нейкі там спектакль, а ўвогуле нават назва тэатра не ўспамінаецца. Нібыта яго ў сталіцы і няма. Раз-пораз гледачы з салідным стажам узгадваюць, што колісь бачылі там нешта цікавае. Што адбываецца на Энгельса, 26, нікому не вядома, нават афіш у горадзе не расклейваюць. А тэатр такі, між іншым, ёсць, і акцёры ў ім працуюць. Я гучна задаю пытанне: хто вінаваты? І адразу даю гучны адказ, каб яго пачулі, найперш, кіраўнікі ТЮГа: самі вінаватыя! Вы, спадары мастакі, самавызваліліся ад увагі публікі. Вы занялі такую пазіцыю і, здаецца, зрабілі гэта свядома: арыентавацца толькі на дзіцячую аўдыторыю і толькі з дапамогай арганізацыі гледача праз школы і дзіцячыя садкі.

Пазіцыя для мяне, мякка кажучы, дзіўная. Асабіста я, не адзін год займаючыся праблемамі тэатраў юнага гледача, шмат паездзіў па гарадах былога СССР і не бачыў ніводнага ТЮГа, які б ігнараваў так званы «дарослы» рэпертуар. І пасля: а што такое «дзіцячы» і што такое «дарослы» рэпертуар? Дзе водападзел паміж імі? Хто скажа, у якім узросце трэба ці можна глядзець Чэхава, Шэкспіра, сучасных нашых ці замежных аўтараў? А можа, Шэкспіра трэба адаптаваць пад нейкую «узроставую катэгорыю» (выраз з лексікону тюгаўскіх дзеячаў яшчэ з часоў А.Бранцава і Н.Сац)? Казкі для зусім малых і авантуры, прыгоды для крыху старэйшых — добра. І ўсё? А як жа быць з зусім іншым жыццёвым і эстэтычным вопытам падлеткаў, моладзі (школьнай, студэнцкай), ужо не такім, якім ён быў колісь, у эпоху педагагічных і мастацкіх рэгламентацый? І яшчэ адзін аргумент у абарону права тэатра ставіць сур'ёзную драматургію. Трэба развіваць патэнцыял трупы. Таго ж зайчыка акцёр ці актрыса сыграюць зусім інакш, калі будуць мець вопыт увасаблення іншых герояў. А настрой акцёрскі? Яны ж прагнуць быць заўважанымі знаўцамі сцэны, мець папулярнасць. Не, я ні ў якім разе не супраць дзіцячага рэпертуару. Дзеці павінны мець свой тэатр. Але так хочацца, каб ён стаў для іх тым месцам, куды яны маглі б хадзіць і ў дзесяць, і ў пятнаццаць, і ў дваццаць гадоў, і аж да старасці.

А ўсё гэта я напісаў з самымі добрымі намерамі і шчырымі сімпатыямі да тэатра, у якім сам у свой час працаваў, дзе сёння працуюць блізкія мне людзі. Падштурхнула ж мяне на гэтыя словы апошняя тюгаўская прэм'ера. Спектакль «Стваральніца цуду» паводле Уільяма Гібсана, на мой погляд, дае падставы для таго, каб у тэатры задумаліся, куды і як ісці далей. Мне ён падаецца прынцыповым паводле шэрагу яго мастацкіх вынікаў. Паспрабую тут іх сфармуляваць.

Па-першае, спектакль быў цікавы мне, чалавеку сярэдняга ўзросту з ужо не малым вопытам і проста гледача, і крытыка. З цікавасцю, з павагай уважліва глядзелі яго на прэм'еры рэжысёры, акцёры з іншых тэатраў, крытыкі, запрошаныя дарослыя людзі — сябры выканаўцаў. У зале (паводле традыцыі) — пераважная большасць падлеткаў. П'еса складаная, інтанацыя, атмасфера спектакля — ціхія, скіраваныя на разуменне псіхалогіі герояў, а не на атракцыён. Падлеткі слухалі, стрымана рэагавалі, спачувалі, перажывалі — ім таксама было цікава. Гісторыя, якую разыгрывалі акцёры, была прывабная і для пятнаццацігадовых, і для пяцідзесяцігадовых. Спектакль доказна абверг догму пра неабходнасць нейкай асаблівай п'есы для падлеткаў. Твор Гібсана — з рэпертуару «дарослага» тэатра, прычым, тэатра сур'ёзнага, з моцнай акцёрскай трупай, здольнай пайсці нават далей за псіхалагічную драму, бо тут спроба псіхааналізу. Сюжэт п'есы ўяўляе сабой псіхалагічны эксперымент: дзяўчынка-падлетак не ўмее гаварыць, а зусім маладая асоба спрабуе яе навучыць вымаўляць словы праз спасціжэнне, разуменне прадметнага ці характарыстычнага іх сэнсу. Але тэатр — не клініка. Пачынаючы з 40 — 50-х гадоў заходняя драма, шырока карыстаецца формай эксперыменту, набліжанага паводле метадаў яго правядзення да медыцынскага, навуковага, педагагічнага і да т.п. Абставіны ж, характары, тэксты, якімі «абрастае» эксперымент у п'есе, маюць на мэце алюзію рэчаіснасці ва ўсёй яе сацыяльнай і псіхалагічнай неадназначнасці. У такіх п'есах «клінічнае», «сацыяльнае», «маральнае» выступаюць у цеснай узаемасувязі як плынь псіхікі, свядомасці і падсвядомасці, сказанага і недасказанага. Тут не ўсё патрабуе расшыфроўкі, дакладных фармулёвак. Тое, што ў жыцці мы вызначаем адназначнай адной фразай, драматург раскладвае на этапы, працэсы — аналізуе. З асобных фраз, падзей, што могуць падацца нават нязначнымі, узнікае эмацыянальная зона, што можа грымнуць як выбух, ці, наадварот, завесці думкі і эмоцыі ў тупік. Тут рух жыцця звычайнага, наўмысна лакалізаванага прыватным выпадкам, за дужкамі ж драмы —акрэсленая ідэя, якую нам з таго прыватнага жыцця дадзена пасля, потым сфармуляваць. А пакуль будзем назіраць за эксперыментам, паступова ад сінтэзу ці аналізу пераходзіць у эмацыянальны стан, запланаваны аўтарам і рэжысёрам.

Упэўнены, рэжысёр Уладзімір Салюк пазбягаў фармулявання для акцёраў «звышзадачы», «ідэі», «тэмы» спектакля. Выпукла, нават рэзка ён прачэрчвае лінію эксперыменту: маладая дзяўчына ўпарта, настойліва вучыць недаразвітае дзіця гаварыць. Усе вакол гэтага эксперыменту існуюць на ўзроўні ацэнак, рэакцый, спробаў дачынення, разумення ці непаразумення. Без спрошчаных высноў паводле традыцыі «сямейнай драмы», тут няма нават намёку на сацыяльны крытыцызм адносна буржуазнай ці мяшчанскай маралі, укладу жыцця. Не ставіцца пытанне «хто вінаваты?», а значыць і не даецца на яго адказу. Рэакцыі, ацэнкі, хваляванні членаў сям'і, у якой такое няшчасце з дзіцем, самыя натуральныя, звязаныя з перажываннямі нармальных людзей. Кэт — мілая, прыгожая, пяшчотная, добрая, уважлівая мама, сэрца якой імгненна рэагуе на ўсё, што тычыцца яе дачкі. Мама! — і гэтым усё сказана. Бліскучае і тонкае выкананне ролі актрысай Галінай Кухальскай (радуюся, што нарэшце, пасля гадоў няўвагі да таленту артысткі, тэатр раскрывае яе магчымасці на зусім новым узроўні). Капітан Артур Келер, тата (Л.Улашчанка) — па-мужчынску стрыманы, але пачуцці яго час ад часу прарываюцца на паверхню, і ён, крыху салдафоністы, але ў іх, заходнім, не ў нашым, хамскім, разуменні, становіцца ледзь не безабаронным у няшчасці і любві. Іранічна-няўрымслівы Джэймс, брат (Андрэй Кізіно), памяркоўная цётачка Іў (К.Доўнар), служанка Вінэй (Тацяна Жданава), яе маленькі сын Персі (Алена Шабат) — гэта тое акружэнне дзяўчынкі Элен, якое ёй жадае дабра і абсалютна нічым не можа дапамагчы, тым больш што на іх скіраваныя яе агрэсіўныя адчуванні, інстынкты, рэфлексы. Свет, у якім адбываецца цяжкі шлях пазнання — ад нуля да існасці рэчаў, з'яў. З разумення іх нараджаюцца гукі, склады, словы. Чалавек пачынае асэнсавана гаварыць. Дакладней, жывая істота становіцца чалавекам. Праз памылкі і ўнутранае, а часам і балючае фізічнае пераадоленне самой сябе. З дапамогай чалавека, які не абавязкова павінен любіць, але абавязкова мусіць мець жаданне гэта рабіць, настойліва, таксама праз пераадоленні, сцвярджаючы сябе, сваё прызначэнне, адначасова пазнаючы і іншых людзей, свет увогуле. Актрысы Вера Кавалерава (Элен) і Раіса Астрэдзінава (міс Ані Сюліван) іграюць востра, экспрэсіўна-нервова і на ўзроўні інтанацыйным, і на ўзроўні пластычным. Тут няма паўтаноў, «тайны», ёсць адкрытыя эмоцыі і рух. Іх дуэт разыгрывае дзеянне драмы, за імі сочым, разам з імі ідзем па прыступках доўгай лесвіцы псіхалагічнага эксперыменту: наступ адной і такое ж супраціўленне другой. Цяжкі шлях, які завяршаецца цудам.

Другі момант, які я хачу зафіксаваць на гэтых старонках, — культура спектакля, яго эстэтыка. Паводле знешняга (зрокавага) вобраза — ён прыгожы. Светлая танальнасць дэкарацый, касцюмаў (мастак Надзея Бахвалова). Апошнія добра пашыты, персанажы выглядаюць элегантна, тым больш што акцёры добра сябе пачуваюць у вопратках таго далёкага і нябеднага заходняга свету. Рэжысёр спрактыкавана карыстаецца, гаворачы на мове кіназнаўства, «буйным планам», «стоп-кадрам», эфектна мізансцэнуе, абыгрывае прастору сцэны — робіць гэта, калі так можна сказаць, у «мхатовско-современниковской» манеры. І не дзіва, бо Уладзімір Салюк — былы акцёр і рэжысёр тых двух знакамітых тэатраў Расіі. Вельмі разумнае, слушнае запрашэнне на пастаноўку менавіта гэтай асобы. Ён умее працаваць з акцёрамі, з імі ў сп.Салюка ўсталёўваецца любоў, якая дае плён. Так было і ў сямідзесятыя гады, калі ён на гэтай жа сцэне ставіў «Драму праз лірыку». Так сталася і зараз.

Адным словам, атрымаўся спектакль вельмі сімпатычны, скіраваны на неадназначнае разуменне яго кожным гледачом, разуменне індывідуальнае. Пастановачная культура, складанасць паэтыкі, якая не дэманструецца, а ціха, паступова выяўляецца праз акцёра — стваральніка і ўдзельніка псіхалагічнага эксперыменту на сцэне, адметна вылучае гэты спектакль з рэпертуару Тэатра юнага гледача. Больш таго, на мой погляд, ён у такой рэжысуры і з гэтымі акцёрамі мог бы добра прагучаць на любой сцэне Мінска.

Да чаго гэта я так сказаў?

Не, не дзеля таго, каб прынізіць ТЮГ: маўляў, ён нейкі там другагатунковы тэатр. Ужо сам факт, што на такім даволі высокім узроўні сыграна такая складаная п'еса, гаворыць сам за сябе. Я ўсё пра тое ж, пра ацэнку сваіх магчымасцяў і пра неабходнасць тэатру адчуваць сябе тэатрам. Спектакль «Стваральніца цуду» можа стаць той кропкай адліку, з якой калектыў (ці найперш кіраўніцтва?) пачне ставіць перад сабой задачы, сувымерныя з узроўнем сучаснага мастацтва і ў нашай краіне, і ў свеце.

Але я баюся. Чаго? Ды таго, што па-сапраўднаму творчая і вартая ўвагі нават тэатрала-гурмана праца можа згубіцца ў паўсядзёнцы-завядзёнцы гэтага тэатра. Замест рэкламы, прапаганды свайго мастацтва там займаюцца, здаецца, адно толькі арганізацыяй школьных культпаходаў. І дзе там часу знойдзеш, каб вярнуць у тэатр таго «дарослага» гледача, які там быў яшчэ дзесяцігоддзе таму, ці прыдбаць новага. Баюся, што і адносна гэтага спектакля ў службе арганізацыі гледача прамовіцца клішэ «не купляюць», як гэта бывала неаднойчы, калі тэатр прарываўся далей «ранішнікаў».

І што? Зноў адбудзецца маўклівае пахаванне? Так хочацца на гэты раз памыліцца...

Вячаслаў РАКІЦКІ.

КРЫК ДУШЫ

# «ЖЫЦЦЁ, МАБЫЦЬ, ПРАЙШЛО ДАРЭМНА...»

...Мне вельмі падабаецца, што апошнім часам ґазета «Культура» шмат увагі надае праблемам, так бы мовіць, маральна-этычнага кшталту, бо гэтыя праблемы сёння сталіся ледзь не вастрэйшыя за эканамічныя. Жорсткасць, мана, чорная зайздрасць зрабіліся звычайнай з'явай нашай сённяшняй рэчаіснасці, нормай жыцця. Ідэал для многіх, асабліва маладых, — грошы, багацце, матэрыяльная «ўпакаванасць», а чалавек, што не ўмее «круціцца», — проста недарэка, дзівак... Чаму так адбылося? Чаму агульначалавечыя, здавалася б, вечныя каштоўнасці — дабрыня, сумленнасць, літасць, спагада — нікому зараз не патрэбныя?

...Я шмат думаў перад тым, як наважыўся напісаць вам, бо мне, чалавеку немаладога ўжо ўзросту, не проста распавядаць пра тое, што доўга было схавана глыбока на дне душы...

Мы з жонкай выгадавалі двух сыноў і, хаця гэта было не проста, абодвум далі магчымасць вучыцца, атрымаць вышэйшую адукацыю (малодшы нават вучыўся ў аспірантуры). З маленства мы імкнуліся прывучаць дзяцей да сумленнай працы, даводзячы, што лёгкага поспеху ў жыцці не існуе. Дзякаваць Богу, хлопцы нашыя былі здатныя да навукаў, вучыліся добра. Ніколі не было мне соромна, калі наведваў бацькоўскія сходы ў школе.

І сям'я наша была добрая, дружная. Увесь вольны час мы праводзілі разам з дзецьмі. Кажуць, што браты звычайна сварацца паміж сабою ў дзяцінстве, але нашу сям'ю гэта шчасліва абмінула. Старэйшаму было шэсць гадоў, калі нарадзіўся малы, і ён, вялікі, адразу стаў ягоным абаронцай і настаўнікам. Усё ў іх было агульнае: і ровар, і сябры, і сабака...

...Зараз, калі ўспамінаю тыя гады, здаецца, што было ўсё гэта ў нейкім іншым жыцці, бо сёння сыны мае — ворагі адзін аднаму.

А пачалося ўсё тады, калі старэйшы, страціўшы спадзяванні знайсці працу па спецыяльнасці (ён — інжынер-праграміст), якая б больш-менш прыстойна аплочвалася, пайшоў гандляваць у камерцыйную лаўку, якіх зараз так шмат у нашай сталіцы. Зрабіў ён гэта без вялікага жадання, але што паробіш? Сям'ю ж трэба карміць... Праз некаторы час сын кінуў працаваць простым гандляром, бо з дапамогай нейкіх фінансавых «аперацый» стаў адным з саўладальнікаў сваёй гандлёва-камерцыйнай фірмы. З'явіліся грошы, новая кватэра, «Volvo»... Нявестка і жонка не маглі схаваць сваёй радасці...

А малодшы працаваў у той час інжынерам на заводзе і мог разлічваць толькі на сваю «дзяржаўную» зарплату. Менавіта тады і запаўзла ў нашу сям'ю змяя-зайздрасць... Я бачыў, як паступова з'яўляецца і робіцца ўсё больш глыбокай бездань паміж маімі сынамі, як ганарыцца сваім хуткім поспехам старэйшы і як пакутліва зайздросціць другі, малодшы.

Скончылася ўсё тым, што і другі сын, кінуўшы любімую працу, што прыносіла яму задавальненне, таксама ўладкаваўся ў нейкую «будку». Грошай у яго стала болей, але вось шчасця ў вачах нешта не пабольшылася. Не ягоная гэта справа. Калі я паспрабаваў паразмаўляць з ім, растлумачыць, што не могуць усе гандляваць, што павінен нехта і на заводах працаваць і навуку наперад рухаць, дык ён рассмяяўся мне проста ў твар: «Ведаеш, чаму дыназаўры не дажылі да сённяшняга дня? Яны не здолелі прыстасавацца да новых абставінаў, і ў такіх, як ты, таксама няма будучыні. Вы — старая фармацыя...» Зараз адносіны ў нашай сям'і вельмі напружаныя. Сыны лічаць мяне старым буркуном, які нічога не разумее ў катаклізмах сённяшняга жыцця...

Згодны, можа, я і не разумею нечага, але мне відавочна, прынамсі, што трагедыя наша ў тым, што разбурыўшы старыя ідэалы часоў «імкнення да светлай будучыні», мы не стварылі нашым дзецям, малодшаму пакаленню нічога іншага, новага, і таму гэты «вакуум» адразу ж запоўнілі грошы. Але ці могуць яны стаць ідэалам, ці можа чалавек усё жыццё імкнуцца да ўзбагачэння як да нейкай канчатковай мэты? Так, мы, старэйшае пакаленне, былі ў маладосці захопленыя хай сабе і няправільнымі, фальшывымі лозунгамі ды ідэямі, але гэта было шчыра, ад сэрца. А ў сённяшніх маладых? Аб чым яны будуць успамінаць у старасці, расказваючы сваім унукам? Аб тым, як палілі дарагія цыгарэты ды пацягвалі піва, седзячы ў шкляных «камках»? А можа, гэта мы вінаватыя, што нашы дзеці — такія, бо не здолелі, не змаглі мы нешта важнае ім своечасова растлумачыць? Тады, мабыць, дарэмна прайшло нашае жыццё...

Анатоль КУРГАН.

г.Мінск.

# САДРУЖНАСЦЬ

Добрыя адносіны складваюцца паміж супрацоўнікамі Цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя А.І.Герцэна і Беларускім Агенцтвам навукова-тэхнічнай і дзелавой інфармацыі. У выніку такой садружнасці 24 сакавіка ў бібліятэцы адбылася сустрэча чытачоў і бібліятэкараў гарадской цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы з кандыдатам філалагічных навук, краязнаўцам і лінгвістам А.Рогалевым з нагоды прэзентацыі яго новай кнігі «От Гомеюка до Гомеля. Городская старина в фактах, именах, лицах», якую выдала Агенцтва. Аляксандр Фёдаравіч вядомы чытачам па шматлікіх артыкулах у рэспубліканскім і абласным друку. Пагэтаму з такой увагай прысутныя слухалі цікавыя паведамленні аўтара аб малавядомых фактах узнікнення і гістарычнага шляху нашага горада. Спадар Рогалеў адказаў на пытанні аб сваёй дзейнасці як гісторыка-краязнаўцы, аб методыцы навуковага пошуку. Аўтар кнігі не толькі пераканаўча абгрунтоўвае сваю версію гістарычных фактаў, назваў, асоб, аб якіх большасць жыхароў горада маюць недастатковае ўяўленне, але і ставіць пытанні, ствараючы базу для далейшага пошуку. Цікавасць гараджан кніга павінна выклікаць абавязкова. Бо хіба не дзіўна, што большасць гамяльчан аб вуліцах горада ведаюць толькі тое, імя якога дзеяча яна цяпер носіць? Хіба не крыўдна, што веды аб валадарах горада абмяжоўваюцца двума-трыма прозвішчамі? Цікавай з'яўляецца версія аўтара аб вытоках самой назвы горада. Кніга напісана добрай мовай, эмацыянальна, са шчырай любоўю да роднага краю.

Разам з аўтарам кнігі ў прэзентацыі прынялі ўдзел намеснік дырэктара БелАНТДІ М.Беразоўская і загадчык аддзелу А.Кузьміч, краязнаўца Р.Музычэнка. У планах Асацыяцыі — выпуск кніг А.Макушнікава, В.Коваля і іншых. Работа бібліятэкі па ажыццяўленні рэспубліканскай праграмы «Спадчына» працягваецца. І яшчэ. Калектыў бібліятэкі шчыра ўдзячны кіраўніцтву БелАНТДІ не толькі за маральную падтрымку ў наш цяжкі час, але і за матэрыяльную, якую яны аказалі на правядзенне святкавання 75-годдзя старэйшай бібліятэкі горада, адкрытай у красавіку 1919 года.

Т.КЛІМАВА, С.ЗОТАВА, супрацоўнікі бібліятэкі імя А.І.Герцэна г.Гомеля.




## з 4 па 8 мая

## Серада, 11 мая

**Беларускае тэлебачанне**

**8.00.** Раніца рэспублікі.
**8.10.** Дзелавая хроніка.
**8.20.** Пад купалам Сусвету.
**8.30.** «Іграе вакальна-інструментальны ансамбль «Арызонт».
**8.55.** Пяць хвілін на жарты.
**9.00.** Тэлебачанне — школе. Сучасная беларуская драматургія.
**9.30.** Рэклама.
**9.40.** «Семнаццаць імгненняў вясны». 8-я серыя.
**10.45.** «Тайна цацак». Мультфільм.
**10.55.** Аэробіка.
**11.30.** Тэлеклуб «Гаў-гаў».
**12.10.** Абрыс. Філасофія сацыяльнага дзеяння і перспектывы дэмакратыі.
**13.10.** Студыя «Тэлесябрына». Велікоднае рэха.
**13.30.** Навіны.
**13.40.** Што на свеце пачуваецца...
**14.40.** Відзьма-нявідзьма.
**15.40.** Еўрапейскі калейдаскоп.
**16.10.** «Усе мы родам з дзяцінства». (Брэст і Брэсцкая вобласць). Частка 1-я.
**17.30.** Навіны (з сурдаперакладам).
**17.40.** Дарожная азбука.
**18.00.** Дзелавая хроніка.
**18.10.** Абласныя навіны (Гомель).
**18.25.** Навіны Бі-бі-сі.
**19.00.** «Карамболь». Ток-шоу з удзелам спявачкі Н.Вятліцкай.
**19.35.** Да 50-годдзя вызвалення Беларусі. «Так гэта было...» Расказваюць Глеб Фёдаравіч і Ганна Пятроўна Дубраво.
**20.00.** Дзелавы партнёр. Міжнародная выстаўка «Камунтэхніка-94».
**20.30.** Кантакт.
**20.35.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.35.** Пад купалам Сусвету.
**21.45.** Пяць хвілін на жарты.
**21.50.** Рэклама.
**22.00.** «Семнаццаць імгненняў вясны». 9-я серыя.
**23.20.** Дзесяць хвілін плюс стагоддзе. Перадача 2-я.
**23.30.** Надвор'е.
**23.40.** НІКа.
**23.55.** Футбол. Адборачны матч чэмпіянату Еўропы сярод юніёраў. Зборная Беларусі — зборная Венгрыі.

**Канал «Астанкіна»**

**5.15.** Ранішняя размінка.
**5.30.** Раніца.
**7.45.** Агляд рынку нерухомасці.
**8.00,** 11.00, 14.00, 17.00, 20.00, 23.00. Навіны.
**8.20.** Сарока.
**8.35.** «31 чэрвеня». Мастацкі фільм.
**9.40.** Клуб падарожнікаў.
**10.30.** Джэм.
**11.20,** 22.50. Прэс-экспрэс.
**14.25.** Прадпрымальнік.
**15.20.** «Прыгоды Тома Соера».
**15.50.** Джэм.
**16.20.** «Лятаючы дом». Мультфільм.
**16.50.** Загадка СБ.
**17.25.** Тэлерадыёкампанія «Мір».
**17.45.** Дакументы і лёсы.
**17.50,** 20.35. Надвор'е.
**17.55.** «Раскол». Мастацкі фільм. 2-я серыя.
**18.55.** «Эксклюзіў». Інтэрв'ю з Юрыем Чурбанавым.
**19.40.** Добрай ночы, малышы!
**20.45.** Вагон 03.
**20.55.** Заключны канцэрт фестывалю музыкі і танца, прысвечаны 70-годдзю творчай дзейнасці Ігара Майсеева.
**22.25.** Акадэмія. Забаўляльная праграма.
**23.10.** Максіма.
**23.40.** «Рок-н-рол» ТБ.

**Канал «Расія»**

**6.00,** 10.00, 15.00, 19.00, 22.20. Весткі.
**6.20.** Патрабуюцца...
**6.30.** Формула 730.
**7.00.** Час дзелавых людзей.
**7.30.** Добрай раніцы. «Снеданне для чэмпіёнаў».
**8.00.** Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
**8.30.** Ранішні канцэрт.
**8.45.** «Санта-Барбара».
**9.35.** Тэлегазета.
**9.40.** Сялянскае пытанне.
**15.20.** Студыя «Рост».
**15.50.** Там-там навіны.
**16.05.** «Далёкі Усход».
**16.50.** М-трэст.
**17.05.** «Жанчыны свету».
**17.30.** «Расія на рынку ўзбраення». Тэленарыс.
**17.45.** Свята кожны дзень.
**17.55.** Рубяжы.
**18.10.** L-клуб.
**19.25.** Падрабязнасці.
**19.35.** «Санта-Барбара».
**20.25.** Ніхто не забыты.
**20.30.** Рэпарцёр.
**20.45.** «Настальжы».
**21.20.** Зала чакання.
**22.40.** Аўтаімгненне.
**22.45.** Зоркі гавораць.
**22.50.** Спартыўная карусель.
**22.55.** Экран крымінальных паведамленняў.
**23.05.** Мастацтва рэжысёра. Леанід Хейфец.

**Санкт-Пецярбург**

**7.45.** Чароўная лінія.
**8.00.** «Лапік і воблака». Мультфільм.
**8.20.** Кідайка.
**9.00.** «Нямецкая хваля».
**9.30.** «На парозе ночы». Мастацкі фільм.
**10.20,** 11.40, 15.40. Музычны момант.
**10.30.** Хуткая дапамога.
**11.00.** Кірмаш вакансій.
**11.20.** «Сапраўдныя сябры». Мультфільм.
**11.30,** 15.30, 18.30, 21.45. Інформ ТБ.
**11.45.** Чароўная лінія.
**15.45.** Урок нямецкай мовы.
**16.00.** Тэлемагазін.
**16.05.** Крыжыкі-нулікі.
**16.45.** Вялікі фестываль.
**17.00.** «Калі хочам міру».
**17.30.** «На парозе ночы». Мастацкі фільм.
**18.50.** Спорт.
**19.05.** Будні.
**19.20.** Тэлемагазін.
**19.25.** «Танцуе Галіна Уланава».
**20.30.** «Ціхая дама» С.Шолахава.
**21.30.** «Густаў». Мультсерыял для дарослых.
**22.00.** Спартыўныя навіны.
**22.10.** Ваш стыль.
**22.20.** «Кінаўспаміны. Пляжнае жыццё». Дак. фільм.

**8-ы канал**

**18.00.** Шматсерыйны фільм «Карусель».
**18.20.** Музычная праграма.
**18.50.** Журфак БДУ прадстаўляе.
**19.00.** Паліцэйскі серыял «Хіл Стрыт Блюз».
**19.45.** Справы надзённыя.
**20.00.** Мультсерыял «Вальтрон».
**20.30.** Тэлесерыял «Марэна Клара». 3-я серыя.
**21.15.** Дамашні доктар.
**21.45.** Відэасалон. «Класіка зарубежнага кінематографа». Маст. фільм.

## Чацвер, 12 мая

**Беларускае тэлебачанне**

**8.00.** Раніца рэспублікі.
**8.10.** Пад купалам Сусвету.
**8.20.** Надвор'е.
**8.30.** Пяць хвілін на жарты.
**8.35.** «У краіне вясёлай дзяцінства». Мультфільм.
**8.55.** Студыя «Тэлесябрына». Велікоднае рэха.
**9.30.** Рэклама.
**9.40.** «Семнаццаць імгненняў вясны». 9-я серыя.
**11.00.** Дзесяць хвілін плюс стагоддзе. Перадача 2-я.
**11.10—11.40.** «Кола дзён». Сімволіка тканага народнага пояса.
**13.30.** Навіны.
**13.45.** «Шляхдадому». Мультфільм.
**14.05.** «Нов і К»-топ-10.
**15.05.** ПІК.
**15.45.** Тэлебачанне — школе. «Пясняр красы і гармоніі» (Максім Багдановіч і яго паэзія).
**16.15.** «Усе мы родам з дзяцінства» (Брэст і Брэсцкая вобласць). Частка 2-я.
**17.30.** Навіны (з сурдаперакладам).
**17.40.** «Казка пра Камара Камаровіча», «На рынгу». Мультфільмы.
**18.10.** Абласныя навіны (Гродна).
**18.25.** Навіны Бі-бі-сі.
**19.00.** Зачытайце маё пісьмо...
**19.05.** Дзелавая размова. Сустрэча з генеральным дырэктарам вытворчага аб'яднання «Бабруйскмэбля» А.М.Раманоўскім.
**19.35.** «Цеціва». Дак. фільм.
**19.45.** «Свой родны кут». Расказ пра новыя тэхналогіі.
**20.00.** Будучыня страхавой медыцыны. Прымае ўдзел намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларусі І.А.Кенік.
**20.10.** Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю.
**20.25.** Пяць хвілін на жарты.
**20.30.** Кантакт.
**20.35.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.35.** Пад купалам Сусвету.
**21.45.** Рэклама.
**21.55.** «Семнаццаць імгненняў вясны». 10-я серыя.
**23.05.** Надвор'е.
**23.15.** НІКа.
**23.30.** Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».

**Канал «Астанкіна»**

**5.15.** Ранішняя размінка.
**5.30.** Раніца.
**7.45.** Агляд рынку нерухомасці.
**8.00,** 11.00, 14.00, 17.00, 20.00, 23.05. Навіны.
**8.20.** Вясёлыя ноткі.
**8.40.** «31 чэрвеня». Мастацкі фільм. 2-я серыя.
**9.45.** «Жыццё заапаркаў» (ЗША).
**10.20.** ...Да 16 і старэйшым.
**11.20,** 23.10. Прэс-экспрэс.
**14.25.** Прадпрымальнік.
**15.20.** «Прыгоды Тома Соера».
**15.50.** «Падарыце мне вяснушкі». Фестываль дзіцячай творчасці.
**16.10.** ...Да 16 і старэйшым.
**16.50.** Тэхнадром.
**17.25.** За кулісамі. Рускія адыходзяць.
**17.45.** Дакументы і лёсы.
**17.55.** «Раскол». Мастацкі фільм. 3-я серыя.
**18.55.** Аўтарская праграма Л.Філатава. Вольга Бган.
**19.40.** Добрай ночы, малышы!
**20.45.** Лато «Мільён».
**22.05.** Фільмы рэжысёра Л.Бунюэля. «Гэты няясны аб'ект жадання...»

**Канал «Расія»**

**6.00,** 10.00, 15.00, 19.00, 22.20. Весткі.
**6.20.** Патрабуюцца...
**6.30.** Формула 730.
**7.00.** Час дзелавых людзей.
**7.30.** Сем нот у цішыні. В.Малежык.
**8.00.** Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
**8.25.** Мульці-пульці. «Крошка Янот».
**8.35.** Паехалі.
**8.45.** «Санта-Барбара».
**9.35.** Тэлегазета.
**9.40.** Сялянскае пытанне.
**15.20.** Студыя «Рост».
**15.50.** Там-там навіны.
**16.05.** «Зямля родная». Дак. фільм.
**16.15.** Новая лінія. «Гледзячы з Ніжняга».
**17.00.** Будні.
**17.45.** Свята кожны дзень.
**17.55.** У свеце аўта- і мотаспорту.
**18.25.** Свая гульня.
**19.25.** Падрабязнасці.
**19.35.** «Санта-Барбара».
**20.25.** Ніхто не забыты.
**20.30.** Гранд-рэпартаж. «Усе беды — не бяда».
**21.00.** Звычайная справа.
**21.20.** Арт-абстрэл. Асамблея неўтаймаванай моды ў Рызе.
**22.40.** Аўтаімгненне.
**22.45.** Зоркі гавораць.
**22.50.** Спартыўная карусель.
**22.55.** Экран крымінальных паведамленняў.
**23.05.** «А.С.Пушкін у люстэрку рэжысёра Э.Някрошуса».
**23.35.** Пецярбургскія гісторыі.

**Санкт-Пецярбург**

**7.45.** Чароўная лінія.
**8.00.** «Лапік і воблачка». Мультфільм.
**8.20.** Рознакаляровы сабака.
**8.40.** Дзецям пра зверанят.
**9.00.** Нямецкая хваля.
**9.30.** «На парозе ночы». Мастацкі фільм.
**10.20,** 11.40, 15.40. Музычны момант.
**10.30.** Хуткая дапамога.
**11.00.** Этнасы Зямлі.
**11.30,** 15.30, 18.30, 21.50. Інформ ТБ.
**11.45.** Чароўная лінія.
**15.45.** Падарожжа па Усходзе.
**16.00.** Па сакрэту ўсяму свету.
**16.10.** Там, дзе жыве Павуціныч.
**16.25.** Сёння і штодзень.
**16.45.** Вялікі фестываль.
**17.00.** Чалавек на зямлі.
**17.30.** «На парозе ночы». Мастацкі фільм.
**18.50.** Спорт.
**19.05.** Будні.
**19.20.** Тэлемагазін.
**19.25.** Фільмаскоп. «Іосіф Бродскі. Прадаўжэнне вады», «Конь, скрыпка і крышку нервозу».
**21.10.** Блеф-клуб.
**22.05.** Спартыўныя навіны.
**22.15.** Ваш стыль.
**22.25.** «Вячэрні звон».

**8-ы канал**

**18.00.** «Карусель».
**18.20.** Музычная праграма.
**19.00.** Тэлесерыял «Лабірынт правасуддзя».
**20.00.** Мультсерыял «Вальтрон».
**20.30.** «Марэна Клара». 4-я серыя.
**21.15.** Навіны.
**21.30.** «Файт». Кікбоксінг.
**21.50.** «Дэтэктыў... Баявік...» Маст. фільм «Дзяўчына, якая валодае ёгай і кун-фу».

## Пятніца, 13 мая

**Беларускае тэлебачанне**

**8.00.** Раніца рэспублікі.
**8.10.** Дзелавая хроніка.
**8.20.** Пад купалам Сусвету.
**8.30.** Надвор'е.
**8.40.** Пяць хвілін на жарты.
**8.45.** «Добры лес». Мультфільм.
**9.00.** Тэлебачанне — школе. «Пясняр красы і гармоніі» (Максім Багдановіч і яго паэзія).
**9.30.** Рэклама.
**9.40.** «Семнаццаць імгненняў вясны». 10-я серыя.
**10.50.** Студыя «Тэлесябрына». Велікоднае рэха.
**12.40.** «Карамболь». Ток-шоу з удзелам спявачкі Н.Вятліцкай.
**13.15.** Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю.
**13.30.** Навіны.
**15.20.** «Свой родны кут». Расказ пра новыя тэхналогіі.
**15.35.** «Тое, што нельга сказаць словам...» Музычная школа № 10 г.Мінска.
**16.20.** Новая «Крыніца». Сустрэча з супрацоўнікамі абноўленага часопіса. Прамая лінія.
**17.05.** Да 50-годдзя вызвалення Беларусі. «Жыві і помні». Трагедыя вёскі Зінякі. Перадача з Гродна.
**17.30.** Навіны (з сурдаперакладам).
**17.40.** «Зямлі маёй паданні». Інсцэніроўка па матывах беларускага фальклору.
**18.00.** Дзелавая хроніка.
**18.10.** Абласныя навіны (Магілёў).
**18.25.** Навіны Бі-бі-сі.
**19.00.** Навошта дадзена ўлада? Іўеўскі раён. Праблемы мясцовага самакіравання.
**19.45.** Рэйтынг.
**20.00.** Да 50-годдзя вызвалення Беларусі. «Так гэта было...» Расказвае Аляксей Фядотавіч Чацвяроў, былы камандзір кулямётнага ўзвода.
**20.20.** Студыя «Тэлесябрына». Падарункі на добры настрой.
**20.30.** Кантакт.
**20.35.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.35.** Пад купалам Сусвету.
**21.45.** Пяць хвілін на жарты.
**21.50.** «Дзесяць гадоў без права перапіскі». Мастацкі фільм.
**23.35.** Надвор'е.
**23.45.** НІКа.
**24.00.** «Рок-айленд». Канцэртная праграма з удзелам Барыса Грабеншчыкова, груп «Акварыум», «СС-20», «Тэлевізар», «Пабанку» і іншых.

**Канал «Астанкіна»**

**5.15.** Ранішняя размінка.
**5.30.** Раніца.
**7.45.** Файнэншыял таймс.
**8.00,** 11.00, 14.00, 17.00, 20.00, 23.00. Навіны.
**8.20.** Фільм—дзецям. «Басаногі Ген».
**9.35.** Народныя мелодыі.
**9.50.** Футбол. На шляху да Уэмблі.
**10.50,** 22.50. Прэс-экспрэс.
**11.20.** Амерыка з М.Таратутам.
**14.25.** Прадпрымальнік.
**15.05.** Бізнес-клас.
**15.20.** Фільм—дзецям. «Басаногі Ген».
**16.30.** «Даніла і Няніла». Мультфільм.
**16.50.** Азбука ўласніка.
**17.25.** Навіны культуры.
**17.40.** Чалавек і закон.
**18.10,** 20.35. Надвор'е.
**18.15.** Амерыка з М.Таратутам.
**18.45.** Поле цудаў.
**19.40.** Добрай ночы, малышы!
**20.45.** Чалавек тыдня.
**21.05.** Мастацкі фільм «Дэн Огаст». Фільм 3-ці.
**22.05.** Матадор.
**23.05.** Музагляд.
**23.45.** Праграма «Х».
**23.55.** Аўта-шоу.

**Канал «Расія»**

**6.00,** 10.00, 15.00, 19.00, 22.30. Весткі.
**6.20.** Патрабуюцца...
**6.30.** Формула 730.
**7.00.** Час дзелавых людзей.
**7.30.** Рэтра-шлягер.
**8.00.** Сусветныя навіны Эй-бі-сі.
**8.25.** Мульці-пульці.
**8.35.** Паехалі.
**8.45.** «Санта-Барбара».
**9.35.** Тэлегазета.
**9.40.** Сялянскае пытанне.
**10.10.** «Ніжагародскі оперны...»
**10.55.** Белая варона.
**11.40.** Сам себе рэжысёр.
**12.10.** Бізнес у Расіі.
**12.45.** Тэлетэатр. М.Булгакаў. «Ракавыя яйкі».
**14.25.** «Настальжы».
**15.20.** Студыя «Рост».
**15.50.** Там-там навіны.
**16.05.** Ваенны кур'ер.
**16.20.** Новая лінія. «Дай руку».
**16.50.** Дысней па пятніцах. «Дзеці, якія вельмі многа ведалі». 2-я серыя.
**17.45.** Свята кожны дзень.
**18.00.** «САС».
**19.25.** Падрабязнасці.
**19.35.** «Блізкі круг». Мастацкі фільм.
**21.50.** «Раз, два, тры... буйным планам — РТР».
**22.50.** Аўтаімгненне.
**22.55.** Зоркі гавораць.
**23.00.** Спартыўная карусель.
**23.05.** Джэнтльмен-шоу.
**23.35.** «Руская рулетка». Мастацкі фільм.

**Санкт-Пецярбург**

**7.45.** Чароўная лінія.
**8.05.** «Мудрасць беднай дзяўчыны». Мультфільм.
**8.15.** Па сакрэту ўсяму свету.
**8.25.** «Там, дзе жыве Павуціныч».
**8.40.** Сёння і штодзень.
**9.00.** «Нямецкая хваля».
**9.30.** «На парозе ночы». Мастацкі фільм.
**10.15.** Тэлемагазін.
**10.20,** 11.40, 15.40. Музычны момант.
**10.30.** Хуткая дапамога.
**11.00.** «Сярэбраная ніць».
**11.30,** 15.30, 18.30, 21.55. Інформ ТБ.
**11.45.** Чароўная лінія.
**15.45.** «Чужая шуба». Мультфільм.
**15.55.** Залаты ключ.
**16.05.** Казка за казкай. «Соль даражэй за золата».
**16.45.** Вялікі фестываль.
**17.00.** Новы Пецярбург.
**17.30.** «На парозе ночы». Мастацкі фільм.
**18.50.** Спорт.
**19.05.** Будні.
**19.20.** Тэлемагазін.
**19.25.** «Залатая міна». Мастацкі фільм. 1-я серыя.
**20.35.** Тэатральная правінцыя.
**21.05.** Футбол. «Зеніт» — «Аўтадар-Олаф» (Уладзікаўказ).
**22.10.** Спартыўныя навіны.
**22.20.** Ваш стыль.
**22.30.** Маст. фільм «Уздоўж тваёй алеі» (ЗША).

**8-ы канал**

**18.00.** «Карусель».
**18.25.** Музычная праграма.
**18.55.** СОЛТЭК. «Дорэміфасолькі».
**19.00.** Паліцэйскі серыял «Хіл Стрыт Блюз», «У пух і прах».
**20.00.** Мультфільм «Вальтрон».
**20.30.** «Марэна Клара». 5-я серыя.
**21.20.** Мясцовы час.
**21.40.** Справы надзённыя.
**21.50.** Маст. фільм «Мутант на караблі «Баунці».

## Субота, 14 мая

**Беларускае тэлебачанне**

**8.00.** Раніца рэспублікі.
**8.10.** Пад купалам Сусвету.
**8.20.** Надвор'е.
**8.30.** Пяць хвілін на жарты.
**8.35.** Урокі здароўя.
**9.00.** «Узор душы». Тэленарыс пра самадзейную мастачку Марыю Булынка.
**9.20.** Здароўе. Тэлечасопіс.
**9.50.** «Бабуля, навучы». Мультфільм.
**10.00.** Паказвае Брэст.
**11.00.** Тыдзень планеты.
**11.15.** «Дзесяць гадоў без права перапіскі». Маст. фільм.
**13.00.** Сталіца. Тэлечасопіс.
**13.20.** «Мой маленькі поні». Мультфільм.
**13.55.** «Залатое пяро-94». Фестываль беларускай журналістыкі.
**14.55.** Дзесяць запаведзяў. Перадача 5-я.
**15.25.** «Бацькі і дзеці». Рэспубліканскі сямейны сход.
**16.55.** Партрэт у інтэр'еры. Старшыня Мазырскага гарадскога Савета народных дэпутатаў У.Д.Замулка.
**17.55.** «На Гановерскай выстаўцы». Тэленарыс.
**18.25.** «Выдатныя маркі аўтамабіляў».
**19.00.** «Чарапашкі ніндзя».
**19.35.** «Нов і К»-топ-10.
**20.35.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.35.** Пад купалам Сусвету.
**21.45.** Пяць хвілін на жарты.
**21.50.** «Зоркі» на экране. «Поезд у Галівуд» (Польшча).
**23.30.** НІКа.
**23.45.** «Каскад».
**24.00—1.00.** Відзьма-нявідзьма.

**Канал «Астанкіна»**

**6.20.** Ранішняя размінка.
**6.35.** Суботняя раніца дзелавога чалавека.
**7.10.** Спорт-шанц.
**7.40.** Слова пастара.
**8.00.** «Марафон-15» — малышам.
**8.30.** «Мір» прадстаўляе: «Цік-так». Праграма для дзяцей; «Галерэя першых персон». Фільм 3-і «Прэзідэнт Рэспублікі Кіпр».
**9.45.** Ранішняя пошта.
**10.15.** Смак.
**10.30.** Экстра-НЛА.
**11.00.** Дак. фільм «Яго вялікасць футбол».
**11.30.** Зямля людзей. Экалагічная праграма.
**12.00.** Кніжны двор.
**12.35.** Фільмы нашай памяці. «Вуліца, поўная нечаканасцей».
**14.00,** 20.00, 23.20. Навіны.
**14.25.** «Рынальда Рынальдзіні — атаман разбойнікаў». Заключная серыя.
**14.50.** Лабірынт. Сакрэты эканамічнага поспеху.
**15.20.** «Над палямі ды над чыстымі». Спявае Л.Курдзюмава.
**16.05.** У свеце жывёл. «Жыццё заапаркаў» (ЗША).
**16.45.** Рэха тыдня.
**17.05.** Брэйн-рынг.
**17.55.** Да і пасля...
**18.45.** Маст. фільм «Месца, дзе табе добра» (ЗША). 1-я серыя.
**19.40.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны плюс.
**20.45.** «Месца, дзе табе добра». 2-я серыя.
**21.40.** «Майскія зоркі». Міжнародны фестываль майстроў мастацтваў.
**23.30.** Футбол. Кубак Англіі. Фінал. «Манчэстэр юнайтэд»—«Чэлсі».

**Канал «Расія»**

**7.00,** 13.00, 19.00, 22.20. Весткі.
**7.25.** Мульці-пульці.
**7.55.** Дзіцячы музычны фестываль «Екацярынбург--Масква». 1-я частка.
**8.25.** Парламенцкі тыдзень.
**8.55.** «Лад»-галерэя.
**9.25.** Пілігрым.
**10.10.** Здарова жывеш.
**10.25.** Да Масквы — далёка.
**11.10.** «Дзікая планета». Мультфільм.
**12.35.** Спявае В.Казачэнка.
**12.40.** Сялянскае пытанне.
**13.20.** Вялікі хакей.
**13.50.** Суайчыннікі.
**14.20.** Астралогія кахання.
**14.50.** «Зоркі Амерыкі».
**15.20.** «Гарадок». Забаўляльная праграма.
**15.45.** Аміка верытас.
**16.30.** Футбол без граніц.
**17.25.** «Арцёмаў. Рэквіем». Частка 2-я «Слёзны дзень».
**18.15.** Свята кожны дзень.
**18.25.** Вуснамі дзіцяці.
**19.25.** «Дакі». Маст. фільм (Румынія--Францыя).
**21.30.** Адыходзячая натура.
**22.40.** Аўтаімгненне.
**22.45.** Зоркі гавораць.
**22.50.** Спартыўная карусель.
**22.55.** Праграма «А».
**23.55.** «Штэмп». Маст. фільм.

**Санкт-Пецярбург**

**7.30.** Чароўная лінія.
**7.45.** «За лясамі, за гарамі». Музычны фільм.
**9.00.** «Нямецкая хваля».
**9.30.** «Вячэрні звон».
**10.30.** Хуткая дапамога.
**11.00.** Канцэрт па заяўках.
**11.30.** Тэледоктар.
**11.45.** Чароўная лінія.
**12.00.** «Марс і Венера», «Жэрмен Пілон». Дак. фільмы.
**12.15.** «Багатая нявеста». Маст. фільм.
**14.00.** Храм.
**14.45.** Спартыўны агляд.
**15.15.** «На дачы». Маст. фільм.
**15.45.** «КААДП. Аграбленне вернісажа». Мультфільм.
**15.55.** Еўрапейскі калейдаскоп.
**16.25.** «Тры колы, фаліянт і...»
**16.45.** Вялікі фестываль.
**17.00.** Аўтапілот.
**17.15.** Крымінальнае дасье.
**17.35.** Іншае кіно.
**18.10.** Экспрэс-кіно.
**18.30,** 21.45. Інформ ТБ.
**18.55.** «Сабачае сэрца». Маст фільм.
**21.05.** Тэатр на Махавой.
**21.35.** «Па ўласным жаданні». Мультфільм для дарослых.
**22.00.** Ваш стыль.
**22.10.** «Залатая міна». Маст. фільм. 2-я серыя.

**8-ы канал**

**15.00.** Мультсерыял «Трансформеры».
**16.00.** Разважанні пра джаз.
**17.00.** Сямейны экран.
**18.30.** Бізнес-план.
**19.00.** Прыгодніцкі серыял «Заліў Небяспечны». «Здарэнне на ранча».
**19.30.** «Як справы, стары». Ларыса Доліна.
**20.00.** Мультфільмы Уолта Дыснея. «Робін Гуд». 4-я серыя.
**20.20.** Сямейны круг.
**20.30.** Тэлечасопіс «Відзамода».
**21.00.** СОЛТЭК. «Спартыўная мазаіка».
**21.30.** Сем хвілін з «Хрыстафорам».
**21.40.** «Кветка гарачага пачуцця». 1, 2, 3-я серыі.

## Нядзеля, 15 мая

**Беларускае тэлебачанне**

**8.00.** Раніца рэспублікі.
**8.10.** Пад купалам Сусвету.
**8.20.** Пяць хвілін на жарты.
**8.25.** Слова да чалавека.
**8.55.** «Чарапашкі ніндзя».
**9.30.** АБС-клуб. Англійскую мову вучым самі.
**9.45.** «Зоркі» на экране. «Поезд у Галівуд».
**11.05.** «Кола дзён». Сустрэча са збіральніцай і выканаўцай народных песень Марыляй Крупавес.
**11.25.** Лепшыя хіты MTV.
**11.55.** Аэробіка.
**12.30.** Студыя «Існасць». Нядзельная пропаведзь.
**12.40.** Да 70-годдзя «Беларусьфільма». «Салавей». Маст. фільм (1937 г.).
**13.55.** Вяскоўцы. Акцыянернае таварыства на сяле. Гродзенскі раён.
**14.25.** Для школьнікаў. Пра шахматы і шахматыстаў.
**14.55.** «Шматгалоссе». Народы Беларусі: іх гісторыя, культура, традыцыі.
**15.55.** «Гінес-шоу».
**16.25.** «Асілак». Прамая лінія.
**17.45.** Тэлекрама.
**18.00.** «Чарапашкі ніндзя».
**18.35.** Хакей на траве. РШВСМ (Мінск) — «Будаўнік» (Брэст).
**19.10.** Дыялог у прамым эфіры. На пытанні тэлегледачоў адказвае доктар філасофскіх навук, прафесар І.І.Антановіч. Прамая лінія.
**20.00.** Панарама.
**20.35.** Пад купалам Сусвету.
**20.45.** Калыханка.
**21.05.** Пяць хвілін на жарты.
**21.10.** Рэклама.
**21.15.** «Злачынства і пакаранне». Маст. фільм (Францыя).
**23.05.** «Не забудзьцеся ўключыць тэлевізар».
**23.15.** Футбол. «Нёман» (Гродна) — «Дынама-93» (Мінск).

**Канал «Астанкіна»**

**6.45.** Ранішняя размінка.
**7.00.** Гадзіна сілы духу.
**8.00.** Арт-кур'ер.
**8.30.** Раным-рана.
**9.00.** Палігон.
**9.30.** Тыраж «Спортлато».
**9.45.** Пакуль усе дома.
**10.15.** Ранішняя зорка.
**11.05.** «Люстэрка».
**11.45.** Пад знакам «пі».
**12.30.** Малыя гарады Расіі.
**13.00.** «Піф і Геркулес». Мультфільм.
**13.10.** «Падводная адысея каманды Кусто».
**14.00,** 17.30, 23.00. Навіны.
**14.20.** Тэлерадыёкампанія «Мір».
**15.00.** Клуб падарожнікаў.
**15.50.** Шпаргалка.
**15.55.** «Кот Фелікс», «Сапраўдныя паляўнічыя на прывіды».
**16.45.** Жывое дрэва рамёстваў.
**16.50.** Панарама.
**17.55.** Смехапанарама. Вядучы — Я.Петрасян.
**18.40.** Тэлелоцыя.
**18.55.** Надвор'е.
**19.00.** Маст. фільм «Боні і Клайд па-італьянску» (Італія).
**21.00.** Нядзеля.
**21.45.** Спартыўны уік-энд.
**22.00.** Вакзал мары.
**23.10.** «Акварыум»: візіт у Маскву.

**Канал «Расія»**

**7.00,** 13.00, 19.00, 22.20. Весткі.
**7.20.** «Мадонны XX стагоддзя». Дак. фільм.
**8.00.** Дзіцячы музычны фестываль «Екацярынбург--Масква». 2-я частка.
**8.30.** Добрай раніцы, Еўропа.
**9.00.** Лепшыя гульні НБА.
**10.00.** Аты-баты...
**10.30.** «Дэ факта». Міжнародная праграма.
**11.00.** «Справа Румянцава». Маст. фільм.
**12.40.** Шэсць сотак.
**13.20.** Не высечы...
**13.35.** «Першая лэдзі экрана». Грэта Гарба.
**14.05.** Вінілавыя джунглі.
**14.35.** У свеце жывёл.
**15.30.** «Гуфі і яго каманда», «Чорны плашч».
**16.30.** Чэмпіянат свету па аўтагонках «Формула-1».
**18.30.** Свята кожны дзень.
**18.40.** Каробка перадач.
**19.25.** «Вяртанне Дэлайлы». Маст. фільм.
**21.00.** «Рудольф Нурыеў — як ён ёсць». Дак. фільм.
**21.45.** У Ксюшы.
**22.40.** Аўтаімгненне.
**22.45.** Зоркі гавораць.
**22.50.** Спартыўная карусель.
**22.55.** Поўня.

**Санкт-Пецярбург**

**7.30.** «Гаючае слова». Праграма-набажэнства.
**8.00.** Зарубежнае кіно. «Уздоўж тваёй алеі» (ЗША).
**9.35.** «Пале адзін на свеце». Мультфільм.
**10.00.** Экспрэс-кіно.
**10.15.** «На парозе ночы». Маст. фільм.
**11.00.** Нядзельны лабірынт.
**12.30.** «Сустрэчы на арэне». Фільм-канцэрт.
**13.15.** Сем сланоў.
**13.45.** Гістарычны альманах.
**14.30.** «Майстар». Фільм пра М.А.Булгакава.
**16.35.** «Рамэо і Джульета». Балет С.Пракоф'ева на сцэне тэатра «Арэна ды Верона».
**18.55.** Інформ ТБ.
**19.20.** Без назвы.
**19.40.** Адкрыццё фестывалю «Музычная вясна-94».
**20.40.** «Дон Сезар дэ Базан». Маст. фільм. 1-я серыя.
**21.50.** Ваш стыль.
**22.00.** Адамаў яблык.
**23.00.** «Дон Сезар дэ Базан». 2-я серыя.

**8-ы канал**

**15.00.** Мультсерыял «Трансформеры».
**16.10.** Праграма пра здароўе. «Харчаванне».
**17.00.** Нямецкая хваля.
**17.30.** «Сустрэча ў вагоне 2-га класа» з серыі «Зігзагі жыцця».
**18.00.** СОЛТЭК. «Тэлефэн», «Вуліца».
**18.30.** Дзікая Амерыка.
**19.00.** Спартыўная паралель.
**20.00.** Камедыйнае шоу «Схаваная камера».
**20.20.** Тэлесерыял «Кветка гарачага пачуцця».
**22.40.** Фоксі м'юзік.

На кубачак гарбаты

# Жадаю лёгкай рукі!

*(Працяг. Пачатак у NN 12,14,16)*

*У рэдакцыю працягваюць тэлефанаваць і прыходзіць людзі, якія звычайнымі лекамі не могуць справіцца з галаўным болем і якіх вельмі зацікавіла праграма, што прапаноўваюць наша чытачка Наталля Ходзька і рэдактар Тацяна Далгова, якія на сабе выпрабавалі акупрэсурныя сістэмы, сабраныя імі па драбніцы з таго, што ўдалося знайсці ў нашым друку. Таму мы вырашылі працягваць серыю артыкулаў «Жадаю лёгкай рукі!» з удзелам нашых чытачоў.*

*Пачнём з іх.*

**Святлана Крамарэнка, Віцебск, 42 гады:** *«Хачу падзяліцца з вамі той сістэмай акупрэсуры, якая дапамагла і мне пазбавіцца свайго галаўнога болю. Ён быў крыху інакшы, чым той, які апісвае Наталля Ходзька. Мой быў не надта моцны, цярпець было б можна, калі б не адна акалічнасць: я амаль не магла падняцца. Знікала каардынацыя рухаў, я з цяжкасцю магла прайсці на кухню, каб зрабіць сабе гарбаты. Пайсці на працу я проста фізічна не магла. Выкліканы ж урач глядзеў на мяне, як на сімулянтку, і ягоны эуфелін даваў палёгку толькі на дзве-тры гадзіны. Я звярнула ўвагу на тое, што часам моцна балеў нос і лоб, і канчаўся гэты боль недзе пад носам. Балела і цемя, калі ж уставала, то кроў шалёна білася ў скроні. Падвышаўся ціск, але таблеткі давалі палёгку на нядоўгі час.*

*І вось нядаўна трапіла мне ў рукі кніга Юрыя Гушчо «Увядзенне ў энцыклапедыю здароўя і даўгалецця» (Масква-Мінск, Між. асацыяцыя «Асоба, экалогія, свет» і ЕМП «Кола» — 93г.). Перагортваючы яе, я звярнула ўвагу на раздзел «Біялагічныя рытмы», дзе даецца апісанне чатырнаццаці класічных мерыдыянаў, якія аб'ядноўваюць каля 700 актыўных кропак. Некаторыя кропкі я спрабавала масіраваць, але яны давалі нязначную палёгку, а часам рабілася горш, асабліва пры масажы кропак галавы. І ўсё ж... Я звярнула ўвагу на тое, што адзін з гэтых мерыдыянаў заканчваецца менавіта там, дзе ў мяне пры такім маім стане здароўя балела болей за ўсё — нос і пад ім: гэта быў заднесярэдні мерыдыян (альбо ўпраўляючы) Ду-Май. І сімптомы парушэння былі вельмі падобныя на мае — абмежаванне руху пазваночніка і парушэнні дзейнасці цэнтральнай і перыферычнай нервовай сістэмы.*

*У наступны раз, калі я прачнулася і зразумела, што сёння зноў давядзецца званіць на працу і выдумляць новую прычыну сваёй адсутнасці (гаварыць праўду я проста не магла, таму што такія болі паўтараліся ў мяне два-тры разы на месяц, а бюлетэнь мне не давалі), я паспрабавала рабіць масаж тых кропак, якія без усялякіх назваў былі пазначаны на малюнку. Я проста прамацвала свой пазваночнік і масіравала кожную хворую кропку, якая супадала з малюнкам. Пасля паднялася да галавы, і тут мне дапамагла кніга, якую вы ўжо рэкамендавалі ў адным з артыкулаў — «Исцеление с помощью акупрессуры» Ф.М.Хаўстона. Я даведалася, што адна з маіх хворых кропак, пазначаная на малюнку як 2М, гэта «пярэдні раднічок, ужываецца для зняцця галаўнога болю» пры адчуванні, калі «галава разрываецца на часткі». Я масіравала яе і раней, але толькі адну. Цяпер жа я масіравала яе па мерыдыяне, гэтак жа, як і кропку 18, якая, паводле кнігі, вельмі важная і адказвае за функцыю гіпофіза, а таксама і кропку 14М, якая, як піша Ф.Хаўстон, звязаная з вачамі, страўнікам і ніжняй часткай ног. Праўда, пра кропку 16М у кнізе было напісана, што яна антычыхальная, але там было таксама пазначана, што яна звязаная з пярэдняй доляй гіпофіза і ўжываецца пры лячэнні некаторых відаў паралічоў. Магчыма, мае абмежаванні — тое, што я не магла рухацца і г.д., — звязаныя з гіпофізам. Магчыма. Але пасля першага ж такога масажу па мерыдыяне я змагла падняцца і пайсці на працу. Адчувала я сябе кепска, але была*




*перапоўненая радасцю — гэта была першая мая, хай сабе і вельмі маленькая, перамога: я з цяжкасцю, але ўсё ж сядзела на рабочым месцы і мне не трэба было нешта выдумляць! Наступныя масажы паступова паляпшалі мой стан. Зараз я хаця і не вылечылася цалкам — мабыць, мае галаўныя болі маюць і нейкую іншую прыроду, але такіх жахлівых станаў не было ўжо ніколі. Дзякуй добрым людзям, якія пішуць кніжкі, дзякуй і вам за тое, што падказалі, дзе трэба шукаць. А шукаць трэба абавязкова. Нельга скласці рукі і стагнаць: «Я хворы, мне нішто не дапаможа!» Шукайце — і вы нешта абавязкова знойдзеце!"*

Вось такі доўгі ліст нам прыслала наша чытачка Святлана Крамарэнка. І ён радуе — перш за ўсё аптымізмам і энергічнасцю. Сапраўды, тапелец хапаецца за саломінку. Вось і Святлана змагла па простай схеме, на якую іншыя проста не звярнулі б увагу, знайсці нешта спрыяльнае для сябе. Думаецца, што аптымізм дапаможа ёй не меней, чым усе схемы. Тым болей, што рэкамендаваная ёю кніга аказалася вельмі цікавай. Яна нібыта адказвае на званок нашага чытача, пенсіянера Гаўрылюка з Гродна, які назваў успомненую намі «трыяду малой іні» не чым іншым, як «чушью собачьей», якая, на яго думку, «придумана всякими лжеучёными, а вы им потакаете».

Дык пра што піша ў сваёй кнізе Юрый Гушчо, які быў напачатку нямоглым інвалідам, а пасля стаў кіраўніком кругасветнага ралі і сам праехаў па 70 краінах свету, абагнуўшы зямны шар амаль два разы, як пра гэта расказвае ў прадмове акадэмік Расійскай акадэміі навук, доктар медыцынскіх навук, прафесар Ю.Нікалаеў?

А піша ён пра тое, што «згодна з уяўленнямі старажытных вучоных, у чалавечым арганізме цыркулюе жыццёвая энергія, па тэрміналогіі, прынятай у Кітаі, яна называецца «Чы». Энергія «Чы» рухаецца па строгаму цыклу ў часе і ўздоўж умоўных ліній, што называюцца мерыдыянамі». І далей: «Формай» праяўлення энергіі «Чы» служыць барацьба і супрацьдзеянне двух супрацьлегласцяў: Ян — станоўчай сілы мужчынскага пачатку і Інь — адмоўнай сілы жаночага пачатку... Хвароба ў гэтай трактоўцы разглядаецца як парушэнне раўнавагі паміж Ян і Інь».

Як ні дзіўна, але наступны ліст нашага




чытача быў бы незразумелы для многіх без гэтага тлумачэння, таму што ён таксама звязаны з галаўным болем... і акупрэсурай. Чытаючы такія лісты, разумееш, што людзі шукаюць ратунку ў нетрадыцыйных формах, хаця гэтыя нетрадыцыйныя сродкі лячэння больш традыцыйныя, чым іншыя, бо налічваюць некалькі тысяч гадоў.

Так, наш чытач Антон Лукашэвіч з Мазыра, былы настаўнік, знайшоў паратунак у кнізе, якую знайсці, мабыць, было вельмі нялёгка. Выйшла яна ў г.Клайпедзе ў друкарні «Рытас» яшчэ ў 1991г., яе аўтары А.Аўруцін, А.Саздацелеў і В.Серафімава. Называецца кніга таксама няпроста: «Практическая энергетическая акупунктура и календарь рефлексотерапевта». Здавалася, што можна адшукаць у гэтай кнізе мазырчуку? Але дамо яму слова:

*«Галаўныя болі, якія замучылі мяне, былі ні на што не падобныя. Пачыналіся яны з гарачыні,, якая ахоплівала маю галаву, нібы шлем. Балела ўся галава — і як бы гарэла адначасна. Гарачыня станавілася невыноснай, я курчыўся ад болю. Як сказаў мне ўрач, у мяне былі пашыраныя сасуды галаўнога мозга. Але што рабіць? Я спрабаваў паліваць галаву халоднай вадой. Гэта прыносіла палёгку, але потым, калі высыхалі валасы (было такое адчуванне, што яны гараць), боль прыходзіў ізноў, яшчэ больш невыносны. Да таго ж баяўся прастудзіць галаву. Я стаў шукаць. Сярод іншых купіў і гэтую кнігу».*

*Разбіраючыся ў сістэмах Ян і Інь, наш чытач уважліва чытаў сімптомы, па якіх рэфлексатэрапеўты працуюць з мерыдыянамі, як пра гэта расказваецца ў кнізе. Некаторыя быццам бы падыходзілі пад яго хваробу, але акупрэсура не прыносіла ніякіх вынікаў. Так было, пакуль ён не дайшоў да мерыдыяна Ян Вэй Май, пра які гаварылася, што гэты мерыдыян звязвае паміж сабой усе мерыдыяны Ян і цыркулюе ў Ян частцы цела (мяркуючы па здымку, у левай. — Т.Д.). Сярод паказанняў да прымянення значыліся — «Гарачыня, галаўныя болі, галаўны боль у цемені».*

І зноў дадзім слова чытачу.

*«Калі я першы раз прамасіраваў гэтыя пяць кропак (а яны ўсе балелі вельмі моцна), я адчуў, як ад мяне нібыта адарваўся вялікі гарачы ком і адразу наступіла палёгка».*

Як бачым, галаўныя болі могуць быць выкліканы самымі рознымі прычынамі. Мы ж ведаем толькі адзін сродак — таблеткі. Таму ва ўсіх рэкамендацыях урачоў гаворыцца — паспрабуйце зразумець, чым выкліканы ваш галаўны боль. Канешне, лепей было б, калі б у гэтым нам дапамагалі самі ўрачы, але ніхто не будзе ведаць ваш арганізм лепей, чым вы самі. Таму — слухайце сябе ўважліва, аналізуйце свае адчуванні. Калі, пры якіх падзеях пачынае балець галава? Як бачым, чытач, пазнаёміўшыся з сістэмамі Ян і Інь, зразумеў, што, мабыць, у яго парушана раўнавага паміж гэтымі двума відамі энергіі, і знайшоў свой шлях. Мы даем малюнак з кнігі, пра якую напісаў спадар Лукашэвіч. Скажам адразу — знайсці яе было вельмі нялёгка, а ён не прыслаў нам ні малюнка, ні схемы. Аднак мы палічылі патрэбным перадаць ягоны вопыт нашым чытачам, магчыма, ён дапаможа камусьці...

А вось яшчэ адзін рэцэпт, якім пастаянна карыстаецца Марына Курсак, інжынер:

*«Кожную раніцу я абліваю сябе халоднай і гарачай вадою папераменна. У мяне остэахандроз, пасля ночы адчуваю, як застаялася кроў, і галава цяжкая, як чыгун. Абліваю сябе спачатку знізу ўверх — халоднай. Пасля зверху — гарачай, як можна трываць. Асабліва затрымліваюся на шыі і плячах. Часцей за ўсё раблю абліванні 5 разоў (пачынаю і заканчваю халоднай). Аднак, калі раніцай трохі баліць галава, раблю гэта сем, дзевяць альбо адзінаццаць разоў. Халодную ваду я ненавіджу — але толькі яна дапамагае трымаць тонус, таму — хуценька, пакуль яшчэ цёплая пасля ложка, убягаю ў ванную і абліваюся, а пасля бегаю на месцы 2-3 хвіліны, каб добра разагрэцца. Раблю так другі год і зусім пазбавілася галаўных боляў».*

Зноў жа гэты ліст дае нам выдатную магчымасць убачыць, што сіла волі і жаданне быць здаровым могуць пераадолець усе нашы «не хачу» і «не магу». Не шкадуйце часу на сябе — і, можа, вы знойдзеце «ваш» рэцэпт там, дзе дасюль не спадзяваліся нават пабываць — сярод кніг і брашур, напісаных людзьмі, якія пакутавалі гэтак жа, як і вы, але знайшлі ў сабе сілы шукаць і знаходзіць.

Жадаю лёгкай рукі!

**Лісты да друку падрыхтавала**
**Тацяна ДАЛГОВА.**

Культура

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік —
Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара —
Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:

А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП,
Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ,
А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ,
В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ,
В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ.

Адказны сакратар — Андрэй ВАШКЕВІЧ
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД.
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Набор і вёрстка кампутарнага цэнтра
газеты «Культура»

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул..ЧЫЧЭРЫНА, 1.

Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца
і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць
за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 7000
Замова 50
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

